Раптам з лёгкай прастадушнасцю ў голасе Зоф'я адкрыла сапраўдную таямніцу: у Марыі Шутовіч быў раман са спеваком Міхасём Забэйдам-Суміцкім[1].

О, а гэта файны паварот размовы!

І сярод тых пятнаццаці канфіскаваных карцін самым большым было, напэўна ж, адлюстраванне спевака?!

П. Мядзёлка невыпадкова адзначыла: першае, што ёй кінулася ў вочы, калі ўпершыню трапіла ў кватэру Адама Станкевіча, — вялізны на сцяне алейны партрэт М. Забэйды-Суміцкага[2]; артыстка не назвала аўтара партрэта, але, мяркуючы па ўсім, гэта быў твор Пётры Сергіевіча[3]...

Спявак часта выступаў у сталіцы Заходняй Беларусі, і Марыя Шутовіч бывала на ўсіх ягоных творчых імпрэзах.

Аднойчы ён падараваў ёй фота, нібы дадатак да алейнага партрэта:

«Вельмі паважанай пані Марыі Шутавічанцы на памятку аб канцэрце 8 мая 1938 г. у Вільні. М. Забэйда. 15.V.1938»[4].

Подпіс даволі стрыманы.

На здымку артыст акружаны моладдзю; сярод усмешлівых дзяўчат і яна — Марыя Шутовіч, а сярод хлопцаў найбольш пазнавальны Максім Танк.

Як бачна, канцэрт адбыўся 8 траўня, а здымак падараваны праз тыдзень, 15 числа, — значыць, у траўні 1938 года спявак і Марыя сустракаліся як мінімум двойчы.

Зоф'я ўздыхнула: праз гэтае сваё каханне яна так і не выйшла замуж...

---

[1] Міхась Забэйда-Суміцкі (1900–1981) — беларускі спявак, тэнар, з майстэрствам і любоўю выконваў нашы народныя песні, у 1930-я гады стажыраваўся ў міланскім оперным тэатры «Ла Скала». Пахаваны ў Празе на Альшанскіх могілках.

[2] П. Мядзёлка. Сцежкамі жыцця. 2018 г.; с. 466.

[3] Пётра Сергіевіч (1900–1984) — беларускі мастак, вучыўся ў Вольнай школе малюнку і жывапісу ў Вільні, у Акадэміі мастацтваў Віленскага ўніверсітэта, у Кракаўскай акадэміі мастацтваў. У 1938 г. мастак падарожнічаў па Італіі, памёр і пахаваны ў Вільні на могілках, што на Антокалі.

[4] Паведамленне ў фэйсбуку С. Панізніка ад 21.04.2018.

Аднак жа і М. Забэйда-Суміцкі ўсё сваё доўгае жыццё заставаўся адзін і памёр у адзіноце!

Што яму не дало ўзяць шлюб з Марыяй?

Не кахаў яе?!

Ці тое, што яна была ўсяго толькі ахмістрыняй?!

А мо ён меў іншую, да якой не стрымліваў пачуццяў?!

Калі верыць эмацыянальнай Ларысе Геніюш[1], спявак са сваім каханнем набіваўся да яе — замужняй жанчыны!

У 1963 годзе М. Забэйда-Суміцкі выступаў у Мінску, і Марыя Шутовіч, узяўшы Зоф'ю, прыехала з Вільні, каб хоць на хвіліну пабачыцца.

Так яно й сталася, на сустрэчу й выпала кароткая хвіліна — спатканне адбылося ў ліфце!

— У ліфце?! — я ажно вочы вялікія зрабіў.

— А па-іншаму й нельга было, бо за панам Міхалам пільна глядзелі!

— А ў якім ліфце? У якім будынку? — хацеў я даведацца.

— А ўжо й не памятаю дзе... У гатэлі, мусіць... Пакуль той ліфт ехаў, мы ўтраіх у ім так і прастаялі...

— Хоць слова якое сказалі?!

— Хіба што слова...

І такімі спатканні бываюць...

На мой адыход Зоф'я зноў правяла мяне па кватэры і расказала, што кнігі, якія ляжалі ў адрыне, паехалі ў Мінск (гэта яе слова: «паехалі»), іх забралі нашы навукоўцы.

Пачутае праясню: у свой час Адам Мальдзіс[2] параіў кіраўніцтву бібліятэкі нашай Акадэміі навук набыць у Марыі Шутовіч уцалелыя кнігі і рукапісы, кіраўніцтва добрай

---

[1] Ларыса Геніюш (1910–1983) — беларуская паэтэса, аўтар вершаваных зборнікаў «Ад родных ніў (1942), «Невадам з Нёмана» (1967), «На чабары настоена» (1982). Асаблівую цікавасць у чытачоў набыла кніга ўспамінаў паэтэсы «Споведзь» (1993). Л. Геніюш жыла ў Празе, у 1947 г. па загаду з СССР была арыштавана, доўгія гады знаходзілася ў лагерах Комі і Мардовіі.

[2] Адам Мальдзіс (1932 г. н.) — беларускі гісторык і пісьменнік, аўтар мноства змястоўных твораў, у ліку якіх прываблівае чытачоў і цікавае даследаванне «На скрыжаванні славянскіх традыцый» (1980).

рады паслухалася, кнігі і рукапісы набыло і заснавала фонд А. Станкевіча.

Зоф'я ўспомніла таксама Сержука Вітушку[1], які некалькі разоў наведваў яе, і падказала, як дзейнічаць мне далей — завітаць у блізкі адсюль касцёл Святога Барталамея, бо ксёндз, які служыць там, можа расказаць пра айца Адама значна больш, чым расказала яна.

Праўда, сёння позна ўжо, касцёл на замку, і, мусіць, таму, што храм замкнуты, а такому дапытліваму госцю, як я, хочацца ўслужыць, хочацца яшчэ нешта памыснае прапанаваць, — Зоф'я раптам зусім па-свойску кранула мяне за локаць:

— Калі жадаеце, то можаце забраць гэта!

І паказала на ўсё той жа гарнітур мэблі — на стол з точанымі ножкамі і белай стальніцай авальнай формы і на два лёгкія венскія крэслы побач.

— Шчыра дзякую... — толькі й адказаў я, не збіраючыся тлумачыць, што забраць гэтыя памятныя рэчы пакуль не маю ніякай магчымасці...

Моўчкі ацэньваючы маю разгубленасць, Зоф'я, пэўна, зразумела, што паспяшалася крыху са сваёй шырокай прапановай.

Я ж тым часам думаў ужо пра іншае...

Згадка пра М. Забэйду-Суміцкага кранула мяне; айцец А. Станкевіч любіў слухаць спевака, высока цаніў яго, называў Праметэем[2] — гэта значыць, выдатнейшым дзеячам, — натхнёна пісаў пра ягоную творчасць, а на допытах у снежні 1944-га мусіў быў прызнацца, што і ў «Беларускім голасе»[3] змясціў дзве рэцэнзіі на канцэрты артыста[4]...

---

[1] Сяржук Вітушка (1965–2012) — беларускі грамадскі дзеяч, гісторык, кіраўнік таварыства «Талака».

[2] А. Станкевіч. З Богам да Беларусі. 2008 г.; с. 319.

[3] «Biełaruski hołas» — штотыднёвая газета, выходзіла ў Вільні лацінскімі літарамі ў 1942–1944 гг. пад кіраўніцтвам Францішка Аляхновіча.

[4] LYA, f. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b. b., l. 175 ap.; пратакол допыту ад 9 снежня 1944 г.; допыт вялі — начальнік аддзялення 2-га аддзела НКДБ ЛССР капітан дзяржбяспекі Голасаў і старшы оперупаўнаважаны 2-га аддзела НКДБ ЛССР старшы лейтэнант дзяржбяспекі (прозвішча нечытэльнае).

Аднак мы выйшлі з кватэры ў пад'езд, і я яшчэ раз агледзеў ручны званок — такія званкі бачыў толькі ў кіно! — і зноў жа палюбаваўся падстаўкай для газавай лямпы...

А ў двары плыло ўжо лёгкае змярканне...

Нейкі мужчына ў фетравым капелюшы, стоячы плячыма да «форда» і выцягнуўшы перад сабою правую руку, фатаграфаваў самога сябе.

— Мой добры сусед, — шапнула Зоф'я, — любіць здымацца...

Паздароўкалася з ім па-літоўску, а мне зноў шапнула: «Усякі выглядае хлапчуком, калі фатаграфуе сябе...»

Я ўсміхнуўся: а Зоф'я пайшла не толькі па маці, пераняўшы яе практычнасць, а ўзяла яшчэ і філасофскага таленту ад бацькі і дзеда!

Умее трапна сказаць!

Бо гэта ж праўда: той, хто здымае сябе, вельмі часта выглядае смешным, але... выглядае самавітым, калі яго фатаграфуюць гвалтам...

І я не мог не ўспомніць турэмныя фотаздымкі Адама Станкевіча...

— А што там, за домам? — на астачу разабрала мяне і такая цікавасць.

— А там ляжыць мой гарод...

Задаволеная гаспадыня павяла мяне, паслухмянага і цікаўнага, паказаць свае грады.

Па даволі стромым беразе Вілейкі агарод, лежачы, спускаўся да самай вады, а з таго боку рачулкі, якая па-дзявочы сакатала, прыкметна ўзвышаўся цьмяны, нібыта пакрыты сасновай карой, купал закінутага касцёла візітак.

Максім Багдановіч[1] у апавяданні «Марына» сказаў пра жвавую Вілейку, што яе зеленаватая вада падмывала гарыстыя берагі.

Як мала цяпер вады (вераб'ю па калена!), а некалі гэтая плыткая рэчка сапраўды мела неспакойны хвосткі нораў.

---

[1] Максім Багдановіч (1891–1917) — беларускі пясняр, прысвяціў Вільні шэраг твораў; увёў нашу паэзію ў сусветную літаратурную прастору.

Вясною 1931 года газеты паведамлялі пра «...нябывалае разводзьдзе ў нашым краі...»:

«...малая, але бурная Вялейка нарабіла больш шкодаў, чым вялікая, але павальнейшая Вільля. Падмыўшы пяшчаныя горы, яна зруйнавала цэлы рад дамоў — драўляных і каменных, сярод якіх і адну камяніцу ў 3 паверхі — на вуліц[ах] Зарэчнай, Бекешовай, Піярскай, Сафіянавай...»[1]

Гэты ж будынак, у якім знаходзілася кватэра ксяндза (трывалая мукамольня!), устояў, страшнай вадой у 1931 годзе яго не змыла, і наогул пра вуліцу Полацкую ў тым газетным допісе не згадалі.

Заклаўшы падмурак дома на крутым рачным схіле, архітэктар здабыў пэўны эфект, таму камяніца мела адсюль, з агарода, не два, а тры паверхі...

А змялелая Вілейка тым часам не змаўкала, і я ўспомніў радкі Якуба Коласа:

...У берагах сваіх высокіх,
Па камянях, бы тая змейка,
Вілася шумная Вілейка
І, закруціўшыся дугою,
Знікала зараз за гарою...[2]

Уніз да яе вечаровай вады можна было сысці і па старых каменных сходах.

— Гэта сходы Адама Станкевіча, — Зоф'ін голас прагучаў надзвычай прыгожа, — а тут, дзе мае соткі, у вайну хадзілі козы...

— Козы?

— Пры немцах Адам Станкевіч трымаў коз...

---

[1] «Беларускі звон», Вільня, 30 красавіка 1931 г., № 10; с. 1.

[2] Радкі з паэмы «Новая зямля» (раздзел XXIX «На Замкавай гары»).

# 8. ПРЫ НЕМЦАХ

Ніхто са старэйшых людзей і ў маім Давыд-Гарадку пра акупацыю 1941–1944 гадоў не казаў: жылі пры Германіі ці пры Нямеччыне; заўсёды гаварылі так, як сказала Зоф'я: пры немцах.

Пра польскае панаванне, заўважу, казалі: жылі пры Польшчы, ці за Польшчай, а не пры паляках.

Што да расійскай улады, то існаваў гэткі выраз: жылі за царом, а не за Расіяй, пры Сталіну, а не пры СССР, аднак жа — во моўнае дзівацтва! — не пры Пілсудскім, а пры Польшчы і не пры Гітлеры, а пры немцах...

Дык вось, пры немцах Адам Станкевіч увайшоў у Беларускі камітэт, на кароткі час узначалены доктарам медыцыны Станіславам Грынкевічам[1].

Чым займаўся згаданы камітэт?

Абараняў інтарэсы беларусаў, клапаціўся пра іхні быт, выдаваў усялякія рэкамендацыі і пасведчанні, праводзіў перапіс насельніцтва; думалі ў камітэце і пра дзяцей школьнага ўзросту — гэта значыць, думалі пра нацыянальную школу, таму пераглядалі старыя падручнікі, рыхтавалі да друку рукапісныя вучэбныя дапаможнікі, але, паводле ксяндза Адама, так нічога і не выпусцілі; у 1943 годзе выйшла «Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча, але аб выданні гэтай кнігі паклапацілася, здаецца, іншая арганізацыя, і з'явілася граматыка не ў Вільні, а ў Мінску...

---

[1] Станіслаў Грынкевіч (1902–1945) — беларускі пісьменнік, перакладчык, навуковец, грамадскі дзеяч; скончыў медыцынскі факультэт Пазнанскага ўніверсітэта; 30 ліпеня 1944 г. арыштаваны савецкай спецслужбай. Кузьма Чорны і Максім Танк прасілі за С. Грынкевіча, але ўсё марна — праз год беларускага патрыёта расстралялі.

Падкрэслена грамадскі (не палітычны) характар дзейнасці доўжыўся месяцы тры, у лістападзе 1941 года С. Грынкевіч перадаў кіраванне камітэтам Вацлаву Іваноўскаму[1] і Баляславу Грабінскаму[2] — работа з уладай стала больш цеснай, і Адам Станкевіч выйшаў з арганізацыі, бо ў яго «...какой-либо симпатии к немцам, каких-либо надежд на немцев не было...»[3]

Да партрэта ж Б. Грабінскага дадам неабходную рысу — ён быў шчодрым чалавекам.

«...Слухалі... 2. Даклад А. Луцкевіча аб атрыманьні ад доктара Грабінскага цэннага дэпазіту: арнату, пашытага са слуцкага пояса... ...Пастанавілі... 2. Дэпазіт прыняць з падзякай...»[4]

Неўзабаве В. Іваноўскі заступіў у Мінску на пасаду бургамістра, і Б. Грабінскі, застаўшыся ў кіраўніцтве адзін, дзейнічаў паводле таго, што прыносілі абставіны.

А па-іншаму ж і нельга было, таму Б. Грабінскі, не забываючы пра цывільны люд і школы, рабіў яшчэ і нешта іншае — скажам, сфарміраваў будаўнічы батальён, адкрыў вярбовачны пункт, прызначаў сваіх людзей на розныя пасады, заступаўся за арыштаваных, даваў паведамленні ў «Беларускі голас»...

А што ксёндз Адам?

Акупацыйныя парадкі хоць у малой ступені, але давалі магчымасць весці неабходную работу, і ён карыстаўся такой магчымасцю, — пісаў і друкаваў артыкулы, працуючы ў беларускай гімназіі, займаўся выхаваннем моладзі, выкладаў беларускую мову ў каталіцкай семінарыі, служыў у касцёле Святога Міхала, клапаціўся пра захаванасць музея імя Івана Луцкевіча...

---

[1] Вацлаў Іваноўскі (1880–1943) — беларускі палітычны дзеяч, доктар тэхналагічных навук; скончыў Санкт-Пецярбургскі тэхналагічны інстытут, заснаваў Беларускую рэвалюцыйную партыю, міністр асветы ва ўрадзе БНР, прафесар Варшаўскага політэхнічнага інстытута; з 1942 г. — бургамістр Мінска.

[2] Баляслаў Грабінскі (1899–1991) — беларускі грамадскі дзеяч, скончыў медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта, пасля вайны жыў у ЗША.

[3] LYA, f. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b. b., l. 184.

[4] LCVA, f. 281, ap. 2, b. 20, l. 12. Пратакол № 13, 23 кастрычніка 1938 г. Пратаколы Беларускага навуковага таварыства за 1938 год.

У лістападзе 1942 года немцы параілі не ўжываць у касцёле польскую мову.

— У храм прыходзяць не толькі беларусы, палякі таксама! — адказаў святар.

У траўні 1943 года зноў паклікалі на гаворку, цікавіліся, дзеля блізіру, ягоным жыццём і ягоным кнігазборам (магчыма, заходзіла мова і пра тое нямецкае выданне, якое падараваў маёр Ружанцоў!), і раптам папракнулі, што ён ухіляецца ад нацыянальнай работы.

— Я ўхіляюся ад палітыкі! — адказаў святар...

У снежні 1943 года ў Мінску тэрарысты забілі В. Іваноўскага.

Адам Станкевіч атрымаў загад ехаць на пахаванне, яму падпісалі дазвол на праезд, паведамілі ў Мінск, і там ужо чакалі, падрыхтавалі нумар у гатэлі, на вакзал нават паслалі машыну, аднак святар не паехаў, вынаходліва спаслаўся на тое, што біскуп М. Рэйніс[1] забараніў яму, каталіцкаму пастыру, удзельнічаць у хаўтурах, бо нябожчык В. Іваноўскі з'яўляўся пратэстантам — кальвіністам...

У чэрвені 1944 года прапанавалі ехаць у Мінск на кангрэс Беларускай Цэнтральнай Рады; святар адмовіўся: я не ўдзельнічаю ў палітычных мерапрыемствах!

Бальшавіцкаму следству паведаміў, што меў сувязь з партызанамі, што асабістыя рэчы адной віленскай камуністкі (відаць жа, па яе просьбе) захоўваў у сябе дома на Полацкай.

І, здаецца, найбольш акцэнтаваў на тым, што ездзіў у Ашмяны абараняць камсамольцаў, якіх немцы збіраліся знішчыць.

Ды ўсё дарэмна.

Капітан Трубачыстаў наслініў аловак:

«...Во время оккупации Литовской ССР немцами выступал [Адам Станкевіч] в костеле с чтением антисоветских пасторских посланий епископа Вильнюсской епархии Рейниса...»[2]

---

[1] Мечыслаў Рэйніс (1884–1953) — біскуп рыма-каталіцкай царквы, скончыў імператарскую духоўную акадэмію ў Пецярбурзе, магістр філасофіі, вучыўся ў Страсбургскім універсітэце; у 1925–1926 гг. з'яўляўся міністрам замежных спраў Літвы. Знішчаны сталінскім рэжымам.

[2] LYA, f. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b. b., l. 32. Пастанова аб прад'яўленні абвінавачання ад 28 красавіка 1949 г.

А яшчэ раней свой аловак насліні́ў лейтэнант Бушуеў:

«...Станкевич з разрешения немецких властей создал в городе Вильнюс “Белорусский национальный комитет”, где проводил свою антисоветскую националистическую деятельность, добиваясь от немцев создания “Независимого буржуазного Белорусского государства”.

За сотрудничество с немцами Станкевич немецкими оккупационными властями намечался к выдвижению на пост генерального викария белорусской католической церкви...»[1]

Так, Адама Станкевіча меркавалі вылучыць і на вікарыя, і на біскупа, толькі не акупанты клапаціліся аб тым, а нашы падзвіжнікі.

Яны думалі пра выхаванне маладых святароў, таму імкнуліся адкрыць у Мінску духоўную семінарыю і намагаліся вярнуць з-за мяжы сваіх ксяндзоў — асабліва друйскіх айцоў марыянаў, якія спазналі цкаванне Варшавы.

Спрабуючы зменшыць на вернікаў уплыў чужога духавенства, нашы патрыёты жадалі ўвесці ў храмы родную мову.

15 жніўня 1941 года з’явіўся пісьмовы зварот беларускіх рыма-католікаў Вільні, адрасаваны Апостальскаму пасаду і, вядома ж, накіраваны і ў акупацыйную адміністрацыю[2].

Паведамлялася, што ў Беларусі аднавіла сваю дзейнасць грэчаская царква, а раз так, то павінна аднавіцца й рымская царква (з касцельнай службай па-беларуску).

Гаварылася пра неабходнасць місіянерства сярод праваслаўнага люду, і рабіўся акцэнт: у Мінск трэ прызначыць біскупаў рымскага і ўсходнеславянскага абрадаў; на пасаду першага і быў названы Адам Станкевіч. А яшчэ выказвалася жаданне мець у Вільні свайго арцыбіскупа, які б загоіў раны, прычыненыя нашаму касцёлу шавіністам Р. Ялбжыкоўскім[3]...

---

[1] LYA, f. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, s.b. (196), l. 2. Пастанова на арышт ад 16 сакавіка 1949 г.

[2] Тамсама, b. b., l. 223 — 26, 27; «Зварот беларускага народа да Папы Рымскага». На нямецкай мове. Дакумент канфіскаваны 30 чэрвеня 1949 г. — LYA, f. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b. b., l. 11 (пункт 13).

[3] Р. Ялбжыкоўскі (1876–1955) — царкоўны дзеяч Польшчы, віленскі арцыбіскуп; праводзіў антыбеларускую палітыку.

Тут варта даць невялікае тлумачэнне, і пачну са станоўчага.

Віленскі мітрапаліт Р. Ялбжыкоўскі — сама цвёрдасць, перад небяспекай не згінаўся, за свой светапогляд не баяўся пайсці на пакуту, падтрымліваў і антынямецкі, і антысавецкі рух; за мітрапалітам неаднойчы зачыняліся брамы нацысцкіх і бальшавіцкіх турмаў.

Касцёл з'яўляўся для яго ўсім: і небам, і зямлёй, і агнём, і вадой, але (дадатнае тут канчаецца) служыў архіпастыр больш палітыцы, чым веры, і для нас гэты доктар тэалогіі вядомы перш за ўсё з благога боку — не кіем, дык палкаю выганяў з храма беларускую мову.

А яшчэ з радасцю хваліўся, што «...ў ягонай дыяцэзіі за пяць гадоў "місійнай працы" ўдалося перавярнуць з праваслаўя на каталіцтва звыш 60 000 душ...»[1]

Ялбжыкоўскі забараняў ксяндзам удзельнічаць у выбарах у Сейм і Сенат, заклікаў каталікоў не ўступаць у БХД, не браць у рукі «Беларускую крыніцу» і не працаваць у рэдакцыі гэтага выдання.

Беларусаненавісніцтва — ягоная закаранелая звычка, і ён жыў і дзейнічаў акурат паводле яе: то не дазваляў у Віленскай духоўнай семінарыі выкладаць нашу мову, то для паланізацыі дзяўчат і юнакоў засноўваў усялякія таварыствы каталіцкай моладзі.

Няўжо не разумеў — паланізацыя штурхае моладзь у чырвоную пастку?!

Адмовіўся Ялбжыкоўскі прызнаць і беларуска-літоўскі камітэт, створаны 4 траўня 1930 года; дзеячы, якія ўвайшлі ў гэты орган, марна прасілі ўвесці ў беларускіх парафіях у дадатковыя набажэнствы беларускую мову, а ў літоўскіх парафіях — літоўскую.

Што да Уніяцкай царквы ў Заходняй Беларусі, то яна для мітрапаліта была «ўсходняй схізмай», таму ён выступаў супраць уніяцтва і караў тых нашых святароў, якія праводзілі службу ва ўсходнім абрадзе.

---

[1] Газета «Наша праца» № 1, Вільня, субота 1 кастрычніка 1927 г.; с. 3.

Агульнавядомы ўдзел утрапёнага пана Ялбжыкоўскага і ў разгроме кляштара беларускіх айцоў марыянаў у Друі.

У ліку іншых духоўных дзеячаў ад такога цемрашальства цярпеў і Адам Станкевіч, які быў упэўнены: сваім нацыяналізмам Ялбжыкоўскі знішчае каталіцызм і наогул «...Сьмярдзіць старым польскім казлом. Каталіцызму ў ім не чуваць...»[1]

Адам Станкевіч не баяўся народных дакладных слоў і не толькі выказваўся імі ў сваім патаемным сшытку, а дзейнічаў — скажам, восенню 1944 года папрасіў Марыю Шутовіч паведаміць Кузьму Чорнаму пра вялікую шкоду, якую робіць Беларусі зацяты мітрапаліт.

Сам убачыцца з пісьменнікам не мог, быў, як вядома, пад пільным наглядам.

І вось у тыя трывожныя дні Кузьма Чорны адзначаў:

«...7 кастрычніка заходзіла да мяне невядомая мне дагэтуль Марыля Шутовіч з Вільні. <...> Яна прыехала ў Мінск, каб дайсці тут якое-небудзь рады: <...> пілсудчык Ялбжыкоўскі садзіць усюды па Беларусі на парафіі палякаў ксяндзоў, якія і прапаведуюць з амбоняў, што ўсе беларусы каталікі ёсць чыстыя палякі. <...> Да мяне прыйшла [Марыя Шутовіч] з просьбай надаць усяму гэтаму не рэлігійны, а палітычна-нацыянальны характар і так падаць у адпаведныя рэспубліканскія органы...»[2]

Ужо арыштаваны, у студзені 1945 года Адам Станкевіч даводзіў следству пра апантанага царкоўніка:

«...Всех белоруссов католиков он считал поляками...»[3]

Дык вось, у жніўні 1941 года нашы вернікі прасілі замест ненавіснага **чужога** даць ім роднага архіпастыра і называлі імя Андрэя Цікоты[4], які ў тыя дні з'яўляўся Апостальскім адміністратарам у далёкім Харбіне.

---

[1] «Каляндарныя нататкі». Запіс ад 7 жніўня 1944 г. А. Станкевіч. З Богам да Беларусі. Збор твораў. 2008 г.; с. 848.

[2] Дзённік. Запіс ад 11 кастрычніка 1944 г. Кузьма Чорны. Збор твораў. 1990 г.; с. 381.

[3] LYA, f. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b. b., l. 200.

[4] Андрэй Цікота (1891–1952) — беларускі рэлігійны дзеяч, скончыў Пецярбургскую мітрапалітальную духоўную каталіцкую акадэмію; з

Дарэчы, каб Ватыкан адклікаў свайго адміністратара з Маньчжурыі, то, магчыма, выратаваў бы яго, а так архімандрыт Андрэй Цікота быў арыштаваны ў снежні 1948 года кітайскімі камуністамі, перададзены ў СССР і ў лютым 1952 года згінуў у Сібіры...

А яшчэ нашы вернікі прасілі даць магчымасць вывучаць у Віленскай духоўнай семінарыі беларускую мову, літаратуру, гісторыю і адкрыць беларускае каталіцкае выдавецтва.

Праз год, 11 жніўня 1942 года, узнік новы пісьмовы зварот пад умоўнай назвою «Становішча каталіцкай царквы ў Беларусі»[1], паводле якога: польскія святары ў сваёй большасці з'яўляюцца польскімі нацыяналістамі, па-сутнасці — палітычнымі прадстаўнікамі Варшавы[2]; заместа іх у нашых касцёлах павінны служыць нашы ксяндзы, заместа польскіх павінны гучаць нашы рэлігійныя песні, і наогул каталіцкой царквой мусіць кіраваць беларуская адміністрацыя, якую неабходна стварыць.

Кіраўнічы клопат якраз і меркавалася ў ліку іншых святароў ускласці і на Адама Станкевіча, яго імя ў дакуменце згадваецца двойчы — у якасці кандыдата на пасаду беларускага біскупа і ў якасці кандыдата для генеральнага вікарыята ў Баранавічах[3].

Асобным пунктам прапісана просьба адкрыць у Мінску духоўную каталіцкую семінарыю[4].

Зварот ад 11 жніўня 1942 года — жорсткі, мэта яго відавочная — карыстаючыся нямецкай акупацыяй, знішчыць варшаўскі ўплыў.

---

21 ліпеня 1933 г. — генерал ордэна айцоў марыянаў. Замардаваны ў сталінскім канцлагеры.

[1] LYA, f. K - 1, ap. 58, b. 12505, l. 223 — 38. Мяркуючы па адзнаках на першай старонцы, дакумент быў накіраваны ў аддзел III B камендатуры паліцыі бяспекі і СД у Мінску.

[2] LYA, f. K - 1, ap. 58, b. 12505, l. 223 — 40.

[3] Тамсама, l. 223 — 41.

[4] Тамсама, l. 223 — 42.

Польскія ксяндзы называюцца ў дакуменце адкрытымі агентамі генерала Сікорскага[1]; пра іх рашуча заяўлена, што яны праводзяць шкодную варожую работу, таму павінны быць зараз жа высланы з Беларусі[2]...

Магчыма, пазней за іншых, але і нашы самаадданыя працаўнікі зразумелі: будзь жорсткі з тым, хто век быў жорсткі з табой!

---

[1] Уладзіслаў Сікорскі (1881–1943) — польскі ваенны і палітычны дзеяч, з 16 снежня 1922 г. па 26 траўня 1923 г. узначальваў польскі ўрад. Паводле Б. Тарашкевіча, палітыка Сікорскага была беспраграмная, у «…яго былі шчырыя намеры, не хапала толькі грамадзянскай мужнасці…». А яшчэ Б. Тарашкевіч заяўляў у Сейме, што ўрад Сікорскага прынёс беларусам шматлікія беды. У 1939–1943 гг. генерал У. Сікорскі з'яўляўся кіраўніком польскага ўрада ў Лондане. Загінуў 4 ліпеня 1943 г. у авіякатастрофе над Міжземным морам. У тым самалёце знаходзілася і ягоная дачка Зоф'я Лесьнёўская.

[2] LYA, f. K - 1, ap. 58, b. 12505, l. 223 — 43.

# 9. КАБ ЖА САПРАЎДНАЕ ШАНЦАВАННЕ...

Адам Станкевіч, сын Вінцэнта і Антаніны, гадаваўся ў сялянскай сям'і, якая мела восем дзесяцін ворнай зямлі, каня, карову і сваю хату з гумном і адрынай.

У такіх працавітых сем'ях звычайна існавала правіла адвечнага самаабмежавання: ці багата з'ясі, ці мала з'ясі, ці багата вып'еш, ці мала вып'еш, а ўсё роўна — слава адна і тая ж, а раз так, то лепей менш есці і менш піць, а больш работу рабіць.

Словам, жылі ад клопату і да клопату, на сілу адціраючыся ад бяды; ведалі: разумны чалавек не разрываецца, робіць усё спакваля, ходзіць у касцёл ці ў царкву, а неразумны адразу хапаецца і за кош, і за цэбар, і адразу прэ і ў касцёл, і ў царкву, ды яшчэ хоча заскочыць у сінагогу з мячэццю...

Такое жыццё, далейшае навучанне і духоўная служба, як і палітычны выбар на карысць Краю, прывялі Адама Станкевіча да запаветнага разумення: каб дасягнуць **свайго**, трэба цяжка працаваць, трэба стаяць за **сваё** і да канца змагацца як з паланізацыяй, так і з русіфікацыяй.

Даволі рана адкрылася яму галоўнае: народу нанесена духоўнае калецтва!

Кім?

Заходнім суседам і суседам усходнім...

Спачатку маленькі Адась вучыўся паблізу роднай вёскі Арляняты (у Барунах, Гальшанах і Ашмянах) — у тых царскіх школках, у якіх дым русіфікацыі выядаў дзіцячыя вочы.

Ксёндз Язэп Германовіч[1] (сябар Адама Станкевіча) у сваіх успамінах згадваў пра вучобу ў Гальшанах:

[1] Язэп Германовіч (1890–1978) — беларускі каталіцкі святар, больш вядомы як пісьменнік Вінцук Адважны; скончыў Віленскую духоў-

«...Нашая мова ў хаце і ў школе была беларуская, але настаўнік не сказаў ніколі ні аднаго слоўца папросту, і мы змушаны былі адказваць па-расейску, нам убілася ў душу такая казёншчына на ўсё жыццё! <...> Вось што значыць чужацкая школа з чужой мовай: так цар-бацюшка мары́ў нашых дзяцей і забіваў народную душу!»[1]

Язэп Германовіч згадаў таксама і аб тым, як давялося яму на апошнім іспыце расказваць на памяць доўгі верш Івана Нікіціна[2] «Русь»:

Под большим шатром
Голубых небес —
Вижу — даль степей
Зеленеется...

Расказаць расказаў, але на ўсё жыццё ў душы засталося непаразуменне:

«...Аж дасюль, больш як семдзесят гадоў, я добра не мог адрозніць "голубого" колеру, пакуль у слоўніку не знайшоў, што "голубой|" значыць "блакітны"...»[3]

Дарэчы кажучы, твор І. Нікіціна «Русь» з царскай школкі перайшоў у савецкую.

Памятаю, як я, трэцякласнік, завучваў яго, раз-пораз падглядваючы ў чытанку «Родная речь», а калі запінаўся, ці, як сказаў бы Язэп Германовіч, капыціўся, мяне тут жа выручала маці, падказвала патрэбны радок.

«Русь» яна вывучыла ў канцы 1939-га, калі ў Давыд-Гарадок прыйшла камуністычная ўлада...

---

ную семінарыю, служыў у Друі ў ордэне марыянаў, быў місіянерам у Харбіне, кіраваў Беларускім марыянскім домам студэнтаў у Вільні, прайшоў сталінскія лагеры, памёр у Лондане; аўтар неверагодна цікавай кнігі «Кітай, Сібір, Масква» (1962).

[1] Вынятка з выдання: Вінцук Адважны. Выбраныя творы. Укладанне, прадмова, каментар Ірыны Багдановіч. Мінск, «Кнігазбор», 2011 г.; с. 515. Далей: В. Адважны. Выбраныя творы. 2011 г.

[2] І. Нікіцін (1824–1861) — рускі паэт з Варонежа.

[3] В. Адважны. Выбраныя творы. 2011 г.; с. 516.

Падкрэслю, нікіцінскі твор — непрыхаваны ўзор вялікадзяржаўнага шавінізму!

...Это ты, моя
Русь державная,
Моя родина
Православная.
<...>
Ты на жизнь и смерть
Вела спор с Литвой
И дала урок
Ляху гордому.
<...>
Но лишь кликнул царь
Свой народ на брань —
Вдруг со всех концов
Поднялася Русь...

У той маёй хрушчоўскай чытанцы гэтых радкоў, здаецца, не было, і ў матчыным сталінскім падручніку, трэба думаць, таксама не было — пільны галоўліт не дапускаў ухвалення царскай дзяржаўнасці і праваслаўя.

Але тады, калі Язэп Германовіч і Адам Станкевіч праходзілі сваю школьную навуку, названыя радкі гучалі, як сказаў бы Якуб Колас, голасам моцы.

Дадам — голасам імперскай сілы!

Я не сцвярджаю, але вельмі верагодна тое, што Якуб Колас у 1910 годзе сваім вершаваным прамаўленнем «Дуб» даў водпаведзь нікіцінскай «Руси» менавіта як шавіністычнаму прадукту:

Сілачом стаіць
Дуб разложысты,
І здалёк відаць
Пышны верх яго.
<...>

Комель — слуп-скала,
Дыша сілаю,
А ўгару зірнеш —
Шапка валіцца.
<...>
Налятаў віхор
З навальніцаю,
Ды не гнуўся ты
Перад бураю!..

Гэй ты, дуб стары,
Вартаўнік лугоў!
Аддае твой шум
Спевам-музыкай...

Знарок узяўшы нікіцінскі рытм, наш паэт усё адно як супакоіў сваіх чытачоў: мы — людзі моцныя, нас відаць здалёк, і ніколі іхняя навальніца не знішчыць нас...

І ці не ад гэтага супакаення, ці не ад гэтай водпаведзі варонежскаму творцу Якуб Колас для Адама Станкевіча стаўся давеку любімым песняром?

Дзякуючы Коласавай песні, юнак Адам пайшоў не па чужым, а па родным шляху, аб чым і засведчыў у артыкуле «У “палоне” паэзіі Якуба Коласа».

Нацыянальна акрэсліцца дапамагла таксама і творчасць Францішка Багушэвіча[1], як і падтрымка ксяндза Адама Лісоўскага[2].

---

[1] Францішак Багушэвіч (1840–1900) — беларускі паэт, вучыўся на фізіка-матэматычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта, удзельнік паўстання 1863–1864 гг., скончыў у Нежыне юрыдычны ліцэй; як адвакат, абараняў сялян і мяшчан у Віленскім акруговым судзе. Аўтар паэтычных зборнікаў «Дудка беларуская» (1891) і «Смык беларускі» (1894).

[2] Адам Лісоўскі (1884–1929) — беларускі рэлігійны дзеяч, рымска-каталіцкі святар, вучыўся ў Вільні, Пецярбурзе, Інсбруку, Мюнхене, адзін з заснавальнікаў беларускага хрысціянскага руху; на нашу мову пераклаў кнігі Новага Запавету.

З добрым адчуваннем роднага грунту юнак Адам адчыніў дзверы Віленскай каталіцкай семінарыі; жаданне вывучыцца на святара надало характару неабходнай цвёрдасці, таму й быў заўсёды ўпэўнены: сваё не пойдзе намарна.

Па вучобе ў Вільні 30 жніўня 1914 года стаў выхаванцам рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі ў Петраградзе і займеў жыццё ў асноўным характэрнае тым, што ў імперскай сталіцы нацыянальныя мары даводзілася падначальваць больш строгай дысцыпліне, таму запаветнае заставалася глыбока ў душы.

У расійскай сталіцы адбылася для яго і такая значная падзея — ад біскупа Яна Цепляка[1] прыняў сан каталіцкага святара[2]; дарэчы, гэты мужны архіпастыр там жа, у Петраградзе, рукапалажыў у святары і Кастуся Стаповіча (Казіміра Сваяка).

Нашчадкі святых апосталаў (маладыя хлопцы!) шчыра верылі: Бог паможа роднай зямлі стаць незалежнай, і дапамогуць іхнія малітвы, а таксама ж людзі, якія прыйдуць у касцёл і пачуюць з амбона беларускую мову.

Аднак жа, разумелі яны, не толькі маліцца і спадзявацца, а трэба яшчэ й дзейнічаць — неабходны грамадзянскі чын!

Адсюль і пачынаўся шлях у палітыку...

Заўважу: рэлігійнасць Адама Станкевіча, можна сказаць, ад пачатку скіравалася да беларускай палітыкі, а ягоная ўпэўненасць мела ўплыў на людзей, і каб жа сапраўднае шанцаванне, то за ім будаваць нацыянальную царкву рушылі б не толькі каталікі, а таксама праваслаўныя і пратэстанты...

А час між тым быў пякельны, крывавы, ішла вялікая вайна, якая пачалася ў тым памятным для яго 1914 годзе, і калі з’яўлялася радасць, то вельмі кароткая, і быць пры гэтай радасці хацелася за ўсякую цану, разумеючы: жыццё шпарка пасоўваецца да смерці, але гэта нічога — галоўнае, каб вынік вайны быў памысны для Беларусі як для асобнай дзяржавы...

---

[1] Ян Фелікс Цяпляк (1857–1926) — біскуп рымска-каталіцкай царквы, мітрапаліт Віленскі; адміністратар Магілёўскай архіепархіі; за сваю духоўную дзейнасць быў асуджаны бальшавікамі на смерць, але, дзякуй Богу, да расстрэлу не дайшло — біскупу дазволілі выехаць у Польшчу.

[2] Адам Станкевіч быў рукапаложаны ў святары 28 снежня 1914 года (ст. ст.).

29 красавіка 1918 года (у Савецкай Расіі!) Адам Станкевіч скончыў поўны курс ужо не імператарскай акадэміі, а праз некалькі дзён, 3 траўня, за подпісам рэктара прэлата Радзішэўскага[1] яму, як святару Віленскай епархіі, уручылі атэстат.

Можна сказаць, паспелі ўручыць, бо магло таго і не адбыцца — якраз у гэтыя тыдні пад ціскам ленінскай палітыкі акадэмія мусіла была спыніць сваё існаванне ў Петраградзе, і прэлат Радзішэўскі, як руплівы гаспадар, ужо праводзіў эвакуацыю ўстановы ў Люблін...

Адам Станкевіч любіў вучыцца і вучыўся ўсё жыццё; быў прагны да любых ведаў — гістарычных, філасофскіх, рэлігійных, грамадскіх, кнігазнаўчых, палітычных, моўных (тут не магу не згадаць ягоны артыкул «З літуанізмаў у беларускай мове»).

Варта ўвагі й тое, што ён, атрымаўшы ў акадэміі ступень кандыдата кананічнага права, прайшоў яшчэ ў 1921 годзе два курсы на юрыдычным факультэце адроджанага Віленскага ўніверсітэта[2], з якога (паводле Арсеня Ліса[3]) таксама пачыналася беларуская ідэя...

Адам Станкевіч цікавіўся ўсім карысным, унікаў у любую неабходную з'яву, якая, на яго думку, рабіла яснейшым роднае неба.

11 студзеня 1925 года на сходзе БНТ зрабіў даклад «...аб цэлым радзе слоў для азначэньня адарваных (?) паняцьцяў больш тэолёгічна-філязофічнага адценьня...» — і сход, на якім за старшыню быў А. Луцкевіч, а сакратаром Б. Тарашкевіч,

---

[1] Ідзі Бенядзікт Радзішэўскі (1871–1922) — каталіцкі святар, прафесар філасофіі, рэктар Імператарскай рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі ў 1913–1918 гг.

[2] LYA, f. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 17.

[3] Арсень Ліс (1934–2018) — беларускі даследчык, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986), доктар філалагічных навук, аўтар грунтоўных даследаванняў, частка якіх уключана ў ягоны збор твораў «Gloria victis!» (2010).

пастанавіў: «...Абгавораны спісак слоў далучыць да матэрыялаў...»[1]

А 26 красавіка 1925 года на пасяджэнні БНТ разглядалі пытанне аб выданні беларускага календара на 1926 год, і ў пратакол сакратар сходу Б. Тарашкевіч упісаў: «Выслухаўшы прапазыцыю кс. А. Станкевіча, згадзіліся даць фірму Таварыства (БНТ. — *Л. Д.-М.*) на каляндар, уважаючы, што гэтае выданьне можа прынесьці пэўны заробак Т-ву (Таварыству. — *Л. Д.-М.*). Засьцераглі, што літаратурны матэрыял календара будзе складацца выключна з легальных крыніц, якія знаходзяцца ў кніжным гандлёвым абароце. Правядзеньне пастановы ў жыцьцё даручана кс. А. Станкевічу...»[2]

Што да засцярогі, то яна адзначана ў пратаколе невыпадкова: у ранейшым календары змясцілі маленькі, на адну старонку, матэрыял, які не прайшоў цэнзуру, і з-за адной (!) старонкі быў канфіскаваны ўвесь ужо надрукаваны тыраж.

Пазней з цяжкасцю тыраж удалося выбавіць з арышту, а тады ўжо мусілі замест забароненай тэрмінова шукаць і спешна ўстаўляць у каляндар новую старонку.

Словам, клопату сабе нарабілі шмат...

У раздзеле «Жыццё без адпачынку» я гаварыў з захапленнем пра абсяг дзейнасці Адама Станкевіча, пісаў пра тое, што ён не цураўся ніякай работы.

Здаецца, меў час на ўсё!

Клапаціўся пра сірот, забіраў іх у прытулак, уладкоўваў у Вільні сваіх пляменнікаў, даваў гімназістам грошы на аплату вучобы, вянчаў маладых, рэдагаваў чужыя кніжкі, рыхтаваў да іх прадмовы, займаўся перакладамі, асэнсоўваў спадчыну Казіміра Сваяка, натхняў на новую творчасць Максіма Танка і Вінцука Адважнага, пісаў і выдаваў свае творы і (Божа мой!) цікавіўся нават вуснай народнай творчасцю.

Пра апошняе паведаміў у сваёй рукапіснай заяве фальклярыст Антон Рафалавіч Янкоўскі[3] — жыхар вёскі Адамчукі.

---

[1] LCVA, f. 281, ap. 2, b. 9, l. 18. Пратаколы Беларускага навуковага таварыства.

[2] Тамсама, l. 19. Пратаколы Беларускага навуковага таварыства.

[3] Антон Янкоўскі (1901–1982) — беларускі народны спявак, збіральнік фальклору.

Дарэчы, пра гэту вёску і, напэўна ж, пра сваякоў Антона Янкоўскага ды іхніх суседзяў ёсць адметная згадка ў брашуры А. Луцкевіча «Польская акупацыя ў Беларусі»; А. Луцкевіч цытуе заяву БНК ад 26 траўня 1920 года:

«...24 траўня (мая) г.г. у вёсцы Адамчукі гміны Міцкуны Віленскага пав. арыштаваны былі грамадзяне Франук, Рафал[1], Бэрнард Янкоўскія, Адам, Мацей, Антось, Дамінік, Людвіг, Міхал, Уладак Стафановічы і Броніcь Тарашкевіч за тое, што Янкоўскі, як вясковы солтыс, ня мог выслаць фурманак дзеля таго, што фурманкі былі высланы і ў той час не вярнуліся. Калі хацелі арыштаваць Рафала Янкоўскага, то другія сказалі: "Арыштуйце і нас". Тады арыштавалі ўсіх адзінаццаць чалавек, засадзілі ў склеп, дзе іх моцна пабілі і адправілі ў Вільню. Юльян Янкоўскі прыйшоў у Вільню з другімі сялянамі, каб даведацца, дзе знаходзяцца арыштаваныя, і спаткаў у Вільні на Полацкай вул. таго самага камэнданта жандармэрыі пастарунку ў Лаварышках, які арыштаваў і Юльяна Янкоўскага і адправіў у жандармэрыю...»[2]

А заява Антона Янкоўскага такая:

«Министру Внутренних Дел Лит. ССР.

г. Вильнюс.

от гр. Янковского Антона Рафаиловича,

прожив. дер. Адамчуки, Вильнюсского р-на,

п/о Лаворишки

Заявление

Я много лет занимался сбором фольклора в окрестностях г. Вильнюса. Папка с этими материалами (народные песьни[3], сказки, легенды, загадки и другие материалы) находились у известного свойго[4] времени белорусского ксендза Адама Станкевича, прожив. в г. Вильнюс. Во время культа Сталина его арестовали, и папка эта была взята вместе с его материалами. В настоящее время я имею возможность издать эти материалы как фольклор окрестности Вильнюса. Прошу ве-

---

[1] Вельмі верагодна, што гэта бацька Антона Янкоўскага.

[2] А. Луцкевіч. Барацьба за вызваленьне. 2009 г.; с. 209.

[3] Слова напісана з мяккім знакам.

[4] Так напісана ў лісце.

рнуть эти материалы (обыкновенная канцелярская папка, а в ней сшиты рукописи).

15 июня 1963 г. Янковский Антон»[1].

Сапраўды, А. Янкоўскі збіраў народныя творы паблізу Вільні і ў сваёй роднай вёсцы Адамчукі; яго імя, дарэчы, сустракаецца ў томе «Балады»[2], які ў свой час выйшаў у серыі «Беларуская народная творчасць».

Невядома, дзе і калі А. Янкоўскі сустракаўся з «известным белорусским ксендзом»; зрэшты, не гэта галоўнае — галоўнае тое, што, відаць па ўсім, Адам Станкевіч зацікавіўся працай народнага спевака, узяў ягоныя запісы для азнаямлення і, пэўна што, спрыяў таму, каб яны з'явіліся ў друку.

У заяве А. Янкоўскага мне спадабалася цвёрдасць:

«Прошу вернуть эти материалы...»

Даволі смелы зварот.

Як і ягоны бацька, як і ягоныя сваякі з суседзямі — не баязлівым быў народны спявак!

Але ці хутка яму адказалі?

Хутка.

Праз два тыдні, 29 чэрвеня, нейкі выканаўца Ташланаў на машынцы адстукаў паперку за № 10/1–6283:

«...На Ваше заявление сообщаем, что действительно у Станкевича Адама были изъяты рукописи, но за давностью времени они не сохранились.

Начальник отдела КГБ при СМ ЛССР Мыльников...»[3]

З 1949-га мінула ўсяго толькі чатырнаццаць гадоў, але ў 1963-м гэта ўжо, на іхняй мове, значыла «...за давностью времени...»

Хутчэй за ўсё, фальклорныя запісы Антона Янкоўскага, як і шмат якія рукапісы Адама Станкевіча, былі спалены.

---

[1] LYA, f. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, l. 5. Назіральная справа № 2661.

[2] Балады. У дзвюх кнігах. Кніга 1. Мінск, «Навука і тэхніка», 1977 г.; с. 716.

[3] LYA, f. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, l. 9. Назіральная справа № 2661.

# 10. БІЦЦЁ ПА НЕРВАХ

Касцельны амбон паволі ператвараўся ў нацыянальную трыбуну, — рэлігійныя прамаўленні ўсё глыбей жывіліся грамадзянскімі нотамі.

У друку выказваў няхай летуценную, але даволі цвёрдую думку: беларусы не згодзяцца на залежнасць ад Варшавы і Масквы, бо прыродна адчуваюць сваю няпольскасць і сваю нерасейскасць.

Варшава і Масква (кожная па-свойму і ў розны час) адпомсцілі за гэта.

Помста першай прымушала нервавацца, жыць наогул неспакойным, трывожным, а то і зусім нервозным жыццём.

«Спрыт польскай палітыкі»[1] выяўляўся і ў тым, што Варшава западозрыла антыленінца Адама Станкевіча ў сімпатыях да камунізму; ход варшаўскіх разважанняў тырчаў, як іржавы цвік з плота: бароніш людзей ад паліцэйскага гвалту — значыць, камуніст!

8 траўня 1924 года сказаў слова ў абарону простага люду на сходзе ў мястэчку Даўгінава Вілейскага павета, за што завялі судовую справу, якую, праўда, скасавалі[2], і невядома, дарэчы, што тут больш дапамагло — духоўнае званне ці дэпутацкі імунітэт?!

1 жніўня 1926 года віленскі ваявода не даў магчымасці яму, паслу Адаму Станкевічу, прамовіць на мітынгу ў Жодзішках; да слова сказаць, у той дзень у Жодзішках забаранілі выступіць В. Рагулю і В. Багдановічу...

Цкаванне доўжылася, — 10 снежня 1928 года айцец А. Станкевіч атрымаў пісьмовы загад Р. Ялбжыкоўскага пакі-

---

[1] Словы Адама Станкевіча.

[2] LYA, f. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 156 ap.

нуць працу ў газеце «Беларуская крыніца» і выйсці з партыі БХД.

Мусіў быў падначаліцца[1], бо ратунку ніякага не было, не меў магчымасці абараніцца і пры гэтым не страціць сан.

А ў 1933 годзе ксяндза звольнілі і з Віленскай беларускай гімназіі...

Узнікалі таксама цэнзурныя перашкоды — так, Віленскае староства забараніла (пазней, аднак, дазволіла[2]) прачытаць лекцыю пра Міхася Баброўскага[3].

Калі ўлада прыпыніла выхад «Беларускай крыніцы», то 28 лістапада 1936 года паліцыя правяла ў кватэры на Полацкай вобыск і канфіскавала паасобныя кнігі і дакументы, а таксама рукапісы; дарэчы, у гэты дзень паліцыя арыштавала ў Вільні архівы ці не ўсіх беларускіх установ!

Польская дзяржава паказвала кіпцюры, аднак жа пакуль не пхала ў спіну, і да канца 1938 года Адам Станкевіч жыў у Вільні, служыў вікарным ксяндзом у дамініканскім касцёле Святога Духа.

Жыў, як той казаў, не трацячы надзеі, але 12 снежня 1938 года яму, як небяспечнай для дзяржавы асобе, загадалі на пяць гадоў пакінуць родную Вільню.

Праз тры дні, 15 числа, зрабіў занатоўку: «Кс. Адам Станкевіч, кс. Ул. Талочка[4] і інж. Ад. Клімовіч[5] загадам вая-

---

[1] LYA, f. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 157.

[2] «Лекцыя. Кс. Ад. Станкевіч 7.III сёл. ў Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы ў VI залі галоўнага будынку Віленскага Унівэрсітэту прачытаў лекцыю на тэму: «Праф. М. Баброўскі, яго жыцьцё, дзейнасьць і беларускасьць»: часопіс «Шлях моладзі» № 3 (102), Вільня, сакавік, 1937 г., с. 22; раздзел «Хроніка. З беларускага жыцьця».

[3] Міхась Баброўскі (1784–1848) — беларускі славіст, адзін з заснавальнікаў беларусазнаўства, доктар тэалогіі, вывучаў спадчыну Францішка Скарыны, прафесар; з Вільні быў сасланы ў Жыровіцы.

[4] Уладзіслаў Талочка (1887–1942) — беларускі рэлігійны дзеяч, публіцыст; вучыўся ў каталіцкім універсітэце ў Інсбруку, удзельнік Беларускай канферэнцыі ў Вільні ў 1918 г. Пахаваны на віленскіх Росах.

[5] Адольф Клімовіч (1900–1970) — беларускі грамадскі дзеяч, інжынер; у 1922 г. пачаў вучыцца на філалагічным факультэце Пражскага ўніверсітэта, а тады перайшоў на агранамічны факультэт Пражскай палітэхнікі. Вучобу завяршыў у 1928 г. Рэдагаваў гаспадарчы часопіс

воды Бацянскага[1] выселены з Вільні і агулам з «пагранічнага паса». Прычыны не паданы. Дагадацца лёгка: наша беларуская культурная праца...»[2]

Ваявода з абразлівай велікадушнасцю прапанаваў Адаму Станкевічу самому выбраць месца, дзе жыць, і ён спыніўся, можна сказаць, амаль на месцы высылкі свайго ўлюбёнага прафесара М. Бабронскага — выбраў у Навагрудскім ваяводстве павятовы Слонім, 27 снежня 1938 года прыбыў туды і ў якасці капелана асталяваўся ў кляштары сёстраў непакалянак.

Максім Танк пісаў:

«...Заходзіў стары мой сябра Д. Ён толькі што прыехаў са Слоніма. Бачыўся там з ксяндзом Адамам Станкевічам. Прысутнічаў у касцёле “Святых сясцёр непакалянак” на яго пропаведзі...»[3]

Беларускім дзеячам у той час нельга было жыць паблізу мяжы з БССР, таму і айцоў марыянаў высялялі з Друйскага кляштара — скажам, Браслаўскае павятовае староства забараняла законніку марыяніну Язэпу Германовічу заставацца ў Друі і яшчэ ўлетку 1938 года ён паехаў у Рым...

Выходзіць, нельга было заставацца і ў Вільні, вядомых беларусаў па чарзе высылалі і выслалі б усіх!

Не паспелі...

Адам Станкевіч звяртаўся ў Варшаву, прасіў скасаваць загад Л. Бацянскага, але Варшава не ўлічыла просьбу[4].

Высылалі ксяндза на пяць гадоў, такое было пакаранне за беларускасць, але ход падзей, які пачаўся раніцай 17 верасня 1939 года, зменшыў згаданы тэрмін да дзесяці месяцаў, а праз дзесяць гадоў наогул забраў жыццё.

---

«Самапомач», выкладаў у Віленскай беларускай настаўніцкай семінарыі, быў старшынёй «Беларускага цэнтра ў Літве». У 1953 г. прысуджаны бальшавікамі да расстрэлу, які быў заменены на 25 гадоў няволі.

[1] Л. Бацянскі (1892–1970) — паланізатар, віленскі ваявода ў 1935–1939 гг.; меў чын палкоўніка. Памёр у Лондане.

[2] Каляндарныя нататкі: Адам Станкевіч. З Богам да Беларусі. 2008 г.; с. 842.

[3] «Лісткі календара», запіс ад 13 студзеня 1939 г.

[4] Пастанова Міністэрства ўнутраных спраў ад 14 жніўня 1939 г. (№ AP. 122/484).

За сваё духоўнае служэнне Адам Станкевіч, здаецца, не атрымаў ад касцельнай улады ніякіх узнагарод; праўда, ва ўмовах польскай дзяржавы застаўся жывы, а жыццё, вядома, найбольшая ўзнагарода.

# 11. БІЦЦЁ ПА КРЫВІ

Так, Варшава біла па нервах, а Масква па крыві — то-бок адразу пхала за краты, а то і ў безыменную магілу пад нумарам.

Зрэшты, не — бывала, што і не адразу...

У верасні–кастрычніку 1939-га, калі органы НКУС дзейнічалі пад кантролем так званага Часовага кіраўніцтва, ксяндза Адама Станкевіча не арыштавалі, і ён пакінуў Слонім:

«...Я, як... літоўскі грамадзянін... пераехаў у Вільню...»[1]

Добры лёс адвёў бяду?

Магчыма.

А мо канстытуцыя вусатага каўказца паспрыяла, паводле якой гарантавалася недатыкальнасць асобы?!

Жартую, канешне.

А памагло тут, здаецца, наступнае.

Перад тым, як Чырвоная армія рушыла ў Заходнюю Беларусь, 15 верасня 1939 года Л. Берыя[2] выпусціў дырэктыву, у якой між іншага выразна бліснула й такое:

«...Аресты духовных лиц пока не производить, особенно католиков...»[3]

Сталінізм сваімі ворагамі лічыў амаль усіх — і вайскоўцаў, і цывільных, і духоўных, і свецкіх людзей (ці не любое саслоўе?!), аднак жа адразу і ўсіх загнаць за дрот, вядома ж, бракавала сіл, таму крывасмокі дзейнічалі хітра і паступова,

---

[1] А. Станкевіч. З Богам да Беларусі. 2008 г.; с. 331.

[2] Л. Берыя (1899–1953) — народны камісар унутраных спраў СССР у 1938–1945 гг.

[3] Вынятка з выдання: Эмануил Иоффе. Лаврентий Цанава: Его называли «Белорусский Берия». Мінск, «Адукацыя і выхаванне», 2016 г.; с. 56. Далей: Э. Иоффе. Лаврентий Цанава: Его называли «Белорусский Берия». 2016 г.

пільнаваліся свайго чорнага графіка, вось чаму і ўзнікла яно: «...аресты духовных лиц пока (!) не производить, особенно католиков...»

Як бачна, перад служыцелямі іншых культаў прадстаўнікі рымскай царквы займелі некаторую перавагу, і пэўна ж таму Л. Берыя даў ім такую прывілею — адтэрмінаваў арышт і знішчэнне, што іх, каталіцкіх святароў, было больш.

А вялікія лічбы — для катаў асаблівы клопат!

Праўда, гэтая перавага доўжылася толькі дзесяць месяцаў:

«...“В связи с борьбой с повстанческими контрреволюционными организациями” все ксендзы в июле 1940 года были взяты “в активную агентурную разработку”...»[1]

У сакавіку 1941-га Адама Станкевіча двойчы выклікаў на гутарку Сяргей Аляксандравіч Мікалаенка.

Пад такім імем святар запомніў свайго першага чэкіста, аднак жа правільнае прозвішча гэтага лейтэнанта — Мікулаенкаў («Никулаенков»)[2].

Так, гэта былі яшчэ, здаецца, не допыты, а проста гутаркі, можа нават і за шклянкай гарбаты з лімонам.

Пра што размаўлялі?

Аб тым кропля інфармацыі ёсцека ў дзённіку:

«25.III.1941. Я ў НКВД як сьведка ў справе Клімовіча. Мяне пратрымалі ў прыёме 5 гадзін...»[3]

Так, Мікулаенкаў распытваў пра інжынера Адольфа Клімовіча, і святар, само па сабе, абараняў інжынера, свайго сябра па БХД.

А. Клімовіча мардавалі ўжо не адзін месяц, і, каб выйсці з турмы, ён ашукаў сваіх мучыцеляў самым простым спосабам — пераканаў іх у тым, што нібыта прыняў іхнюю прапанову на філёрства.

---

[1] Э. Иоффе. Лаврентий Цанава: Его называли «Белорусский Берия». 2016 г.; с. 79.

[2] Старшы оперупаўнаважаны 2-га аддзялення Віленскага гарадскога ўпраўлення НКДБ.

[3] Каляндарныя нататкі: Адам Станкевіч. З Богам да Беларусі. 2008 г.; с. 846.

А яшчэ Мікулаенкаў пытаўся, чаму ён, Адам Станкевіч, дапускаў у друку антысавецкія выступленні[1].

Святар мусіў быў апраўдвацца: маўляў, тыя ягоныя выступленні — горкі плён прыблізнага ведання жыцця ў СССР.

Лейтэнант ці не па-хатняму «ўшчуваў»: хіба можна было так неразумна і неабачліва пісаць — і тлумачыў гуманную сутнасць камуністычнай сістэмы[2]...

Лейтэнант вёў звыклую агідную гульню, і ягоная гульня, магчыма пад звон чайнай лыжкі, вядома ж, была подступам да вярбоўкі.

Якраз у гэтыя дні Мікулаенкаў падвёў рысу (так яму здавалася!) у справе Адольфа Клімовіча.

Інжынера арыштавалі ў ліпені 1940-га, а 19 сакавіка 1941 года Мікулаенкаў на паперы прасіў маёра дзяржбяспекі Быкава[3] даць яму дазвол на вярбоўку арыштаванага.

Пэўна ж, дазвол атрымаў.

23 сакавіка 1941 года А. Клімовіч, які відавочна ўмеў пачуцці падначальваць розуму, «афіцыйна» згадзіўся на супрацоўніцтва і недзе праз месяц, у канцы красавіка[4], выйшаў на волю.

Праўда, ён, беларускі патрыёт (скажу пра гэта наперад!), даўшы падпіску, тут жа знік з вачэй сатаны, не выканаў ніводнага задання і доўгія гады ўдала пазбягаў новай пасткі...

А што да сустрэч з Адамам Станкевічам, то да іх Мікулаенкаў, можна сказаць, рыхтаваўся вельмі старанна.

Пэўна ж маючы вольны час, у лістападзе 1940 года лейтэнант накідаў план агентурна-аператыўных мерапрыемстваў па выдуманай (іншай і быць не магло!) справе «Хадэкі».

Калі гаварыць коратка, Мікулаенкаў далажыў Быкаву пра існаванне «Цэнтра беларускай дзейнасці», шэрагі якога, вядома ж, запоўнілі нацыяналісты, а падмуркам стала БХД.

Лёгка здагадацца: мэта згаданага «Цэнтра» — стварэнне самастойнай, незалежнай ад Масквы, Беларускай дзяржавы,

---

[1] LYA, f. K. - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 159.

[2] Тамсама, l. 183.

[3] Намеснік начальніка Віленскага гарадскога ўпраўлення НКДБ ЛССР.

[4] «1.V.1941. Клімовіч на волі…»: Каляндарныя нататкі: Адам Станкевіч. З Богам да Беларусі. 2008 г.; с. 846.

а раз так, то кіраўнікі гэтай арганізацыі праз берліна-варшаўскую групу (гучыць даволі салідна!) ужо просяць у немцаў зброю для змагання супраць саветаў, а сярод кіраўнікоў першым названы ён — ксёндз Адам Станкевіч!

Колькі такіх «Цэнтраў» за сталінскі час наляпілі чэкісцкія галовы — нават не ведаю, ці магчыма злічыць усе!

Абаротлівыя ж выпаўзні Лубянкі вельмі любілі гэтае слова — **цэнтр**, заўсёды карысталіся ім у сваім павучыным сеткапляценні...

Мікулаенкаў падагульняў: каб адразу прасачыць за ўсімі сувязямі нацыяналістаў, у «Цэнтр беларускай дзейнасці» трэба ўкараніць А. Клімовіча, выпусціўшы яго з турмы, а каб кантраляваць «работу» А. Клімовіча, трэба завербаваць Б. Грабінскага, а для атрымання інфармацыі пра ўсіх варта ўцягнуць у павуціну П. Сергіевіча.

Слаўныя нашы людзі (А. Клімовіч, Б. Грабінскі, П. Сергіевіч...), што яны перажылі тады!

Уяўляю маёра Быкава, які, ухваляючы «творчасць» Мікулаенкава, задаволена спраўляў рогат...

І вось 25 сакавіка 1941 года (дзень, як бачым, невыпадковы!) Мікулаенкаў, мусіць жа, разважаў-думаў, што лепей, што выгадней: вербаваць ксяндза або арыштоўваць?!

Напэўна ж, таксама звяртаўся да свайго патрона, усё таго ж маёра Быкава...

Бальшавіцкія служкі відавочна прабавілі час (тры месяцы!); правалаводзіліся яны ажно да самай вайны з немцамі, бо адразу нешта не склалася ў іхнім паскудным пасьянсе.

Д'яблу трэ было, каб яшчэ мінула больш за тры гады, — толькі ў лістападзе 1944-га на Полацкую па святара прыйшлі...

Не, не д'ябал — Бог даў гэты час Адаму Станкевічу на пісьменніцкую, выхаваўчую, асветніцкую і духоўную працу «пры немцах»; Бог даў гэты час і на стварэнне вельмі неабходнага падручніка «Расказы з гісторыі Беларусі для школы і народу».

У гэтым вучэбным дапаможніку, напісаным у размоўным стылі, Адам Станкевіч сказаў дзецям ды іхнім бацькам не толькі пра мінулы час і вялікія мінулыя падзеі, але і пра галоўных ворагаў Беларусі.

## 12. ТРУПАЖЭРЫ

23 чэрвеня 1944 года пачалася наступальная аперацыя «Баграціён» — Чырвоная армія даволі хутка йшла па Беларусі, вызваляла ад немцаў месты і вёскі, набліжалася да Мінска і Вільні, а ўслед, хаваючыся за спінамі чырвонаармейцаў, упэўненая ў сваёй беспакаранасці, паўзла дзяржбяспека «вялікага шкодніка»[1].

Сунулася тлустая зборня службістаў, выканаўцаў злачыннай палітыкі, работнікаў плахі — сапраўдная саранча жаху.

Кузьма Чорны натаваў:

«...Апарат НКГБ і тысячы чыноўнікаў займаюць увесь горад — яны ўмеюць і любяць рваць адзін аднаго і ўсіх за горла, а я гэтага не ўмею...»[2]

Так было ў Мінску, так было ў Вільні, так было скрозь...

Апарат НКДБ — крымінальнікі, апранутыя па форме і з адпрацаванай на допытах бандыцкай праграмай: спачатку ўгаворы, а тады (пры марнасці ўгавораў) ламанне рэбраў.

Шмат гадоў крымінальнікі ў форме ператваралі поле беларускай культуры ў прастору смерці.

Яны, майстры выняць душу, ведалі найперш адно: чалавек, якога катуюць, можа сказаць усё што заўгодна, таму жорстка мучылі няшчасных, — кажучы па-простаму, запускалі пад шкуру па пяць пальцаў.

Ім не была патрэбна ісціна, таму чарніла ў чарніліцы мела для іх большую цану, чым кроў у чалавечых жылах!

---

[1] Так пісьменнік Вінцук Адважны (ксёндз Язэп Германовіч) называў Сталіна.

[2] К. Чорны. Збор твораў. 1990 г.; с. 382.

Ім да па́ры былі іхнія жонкі, якія збывалі на чорным рынку амерыканскія харчовыя пасылкі, і толькі тое лендлізаўскае[1] багацце, якое не трапляла ім у наманікюраныя лапы, даходзіла чырвонаармейцам у акопы.

Таксама істоты без душы, хоць і жанчыны; яны не маглі глядзець у сваю душу, бо не было куды глядзець...

Прызнаюся — мяне бярэ абрыда, калі ўспамінаю, што сталінскія крыміналькікі пільнаваліся законнасці, старанна падводзілі юрыдычныя абгрунтаванні пад свае фабрыкацыі, клапаціліся, каб кожная пячатка была на адпаведным месцы, кожны подпіс займаў сваю графу, а яшчэ ім было вельмі важна вырваць з арыштаваных сабе кампліменты — маўляў, арыштоўваючы вас, мы паводзілі сябе шляхетна!

Вось як гэта паказана ў творы М. Сяднёва «Раман Корзюк»:

«...— Падпішэцеся, калі ласка, вось тут, што ў часе арышту з вамі абыходзіліся ветліва, — чалавек з НКВД даў Камоцкай алавік.

Камоцкая падпісалася ў адпаведным месцы пратаколу...»[2]

Нават смешна, пільнаваліся законнасці там, дзе не было ніякай законнасці, дзе існавалі толькі лозунгі для выгляду, над якімі залацелі сталінскія рызы і бармы — мундзір генералісімуса...

Я заўважыў — дзеці і ўнукі ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны зазвычай хваляцца гэтак: «Мой бацька, ці мой дзед, быў лётчыкам... Мой танкістам... Мой пехацінцам... Мой сувязістам... Мой разведчыкам... Мой артылерыстам...»

І маюць права гэтак хваліцца, бо іхнія дзяды і бацькі — воіны!

Аднак жа ніхто (амаль ніхто!), прынамсі, я ніколі не чуў, каб нехта пахваліўся: «А мой бацька, мой дзед, служыў следчым у НКУС!»

---

[1] Лендлізаўскае — ад «ленд-ліз» (англ. lend — пазычаць, lease — здаваць у арэнду) — згодна з такой палітыкай ЗША ў час Другой сусветнай вайны забяспечвалі сваіх саюзнікаў харчаваннем, адзеннем, лекамі, зброяй, ваеннай тэхнікай.

[2] М. Сяднёў. Раман Корзюк. 1985 г.; с. 105.

Бо сорамна, бо няма чым/кім хваліцца, бо іхнія палахлівыя бацькі-дзяды сядзелі не ў акопах, а ў кабінетах, выконвалі волю палахлівых правадыроў.

Я не перабольшваю, а проста нагадваю: баязлівасць таксама поўніла і кроў іхніх вышэйшых карміцеляў, пачынаючы з партыйнага алімпа.

Скажам, як жа баяўся Ленін, вяртаючыся ў красавіку 1917-га з Еўропы ў Петраград, што на шведска-расійскай мяжы яго арыштуе Часовы ўрад!

А калі праз некалькі месяцаў, здаецца ў ліпені, Леніна паклікалі ў суд, то ён тут жа ўцёк з Петраграда і вярнуўся, як вядома, толькі тады, калі Часовага ўрада, які яго і хацеў судзіць, па сутнасці, ужо не існавала.

А пра баязлівасць вялікага Сталіна, якую ён паказаў у чэрвені–ліпені 1941-га, напісана не адна гістарычная старонка; тады ж умлелі ад страху і нашы непасрэдныя кіраўнічкі Панамарэнка і Цанава[1].

24 чэрвеня 1941 года яны — маладыя, саракагадовыя мужчыны! — не кінуліся з гранатамі насустрач нямецкім танкам, а, нічога не сказаўшы простым людзям, па-зладзейску нішкам пакінулі Мінск — уцяклі са сваімі сем'ямі і слугамі ў бяспечны глыбокі тыл.

Калі ж такіх засцігала бяда — лілі слёзы, і мозг у іхнім чэрапе ўмомант ператвараўся ў суцэльны страх, і тут плач Цанавы ў Бутырскім астрозе — ці не самы дакладны адлюстровак таго страху.

Ці хоць пакаяўся хто?

Здаецца, ніхто, нават на пісьме...

А калі хто і пакінуў мемуары, то дарма ў тым чытве шукаць аўтарскага пакаяння!

Той жа А. Арлоў[2], напрыклад, які ў 1938 годзе ўцёк у ЗША, на мностве старонак сваіх успамінаў даводзіў, што нікога не

---

[1] Л. Цанава (1900–1955) — наркам унутраных спраў БССР (1938–1941), наркам дзяржаўнай бяспекі БССР (люты–ліпень 1941), міністр дзяржбяспекі БССР (з красавіка 1946).

[2] А. Арлоў (*сапр.* Лейба Лазаравіч Фельдбін; 1895–1973) — старшы маёр дзяржбяспекі НКУС, што адпавядала армейскаму чыну генерал-

мардаваў, не катаваў і не знішчаў; ва ўсім вінаваты яны, Сталін, Ягода, Яжоў ды іхнія памочнікі, а ён, Арлоў, узышоў на самы верх лубянскай гары і не запляміў крывёю бязвінных людзей свой чэкісцкі фрэнч, і, вядома, гэткім жа чыстым анёлам адплыў хавацца ў Амерыку.

Мусіць жа, толькі ў мастацкай літаратуры чалавек на люднай вуліцы можа стаць на калені і прызнацца: я — вінаваты...

Як Раскольнікаў[1], напрыклад.

А вось аўтары мемуарнай літаратуры — не Раскольнікавы, яны, пішучы пра сябе, ніколі не прызнаюцца ў сваёй крывавай віне (у некрывавай таксама), таму зазвычай асноўны змест іхніх пісанняў — адкрытае ці прыхаванае самаапраўданне; словам, такія ўспамінальнікі Богу душою невінаватыя!

І прыкладаў тут можна прывесці мноства: маршал Ж. у сваіх успамінах амаль святы, генерал-фельдмаршал М. — таксама; тое ж і асы люфтвафэ — ніводзін з іх не напісаў пра сябе: «Гэта я скідваў авіябомбы на дзяцей...» — справа ясная, ягоныя бомбы заўсёды ляцелі толькі на варожыя ўмацаванні...

Зрэшты, чалавеку (не дзеючай асобе мастацкага твора!) уласціва хаваць сваю і вялікую, і малую віну.

маёра; аўтар кніжкі «Сапраўдны Сталін. Успаміны генерала НКУС» (1953).

[1] Галоўны герой рамана Хведара Дастаеўскага «Злачынства і пакаранне» (1865–1866).

# 13. ЛЁГКА СКАЗАЦЬ

Прадчуваючы бяду і нават прадчуваючы нешта большае за бяду, Адам Станкевіч рыхтаваўся да самага горшага; трывога ў тыя дні моцна забрала ягоныя думкі, таму 7 ліпеня 1944 года (немцы яшчэ знаходзіліся ў Вільні) склаў тастамент «Мая апошняя воля», у якім, нягледзячы на неспакой, па-сялянску дбайна распарадзіўся сваёй маёмасцю — адпісаў яе блізкім людзям.

Першы радок «апошняй волі»: «На выпадак прымусовага майго выезду із Вільні, або на выпадак сьмерці маей...»[1] выяўна сведчыць: радзіму пакідаць не збіраўся.

А шкада, трэ было дзеля ўласнага жыцця і далейшай працы сабрацца ў трывожную дарогу і рушыць у эміграцыю...

За кароткі час мінула некалькі наездаў-акупацый, і ўсе яны выбівалі беларускае жыта!

Польскі наезд у 1939-м рассыпаўся канчаткова.

З Варшавы часам чулася: «Польшча для палякаў!»

Так, палякі зневажалі, трымалі ў турмах, забіралі здароўе, але давалі дыхаць, пакідалі жывымі — дзякуй за такую мяккасць!

А **тыя** і **гэтыя** не проста гнаілі за кратамі — адбіралі жыццё, кідалі мільёны жыццяў у лёд Магадана і агонь Асвенціма; **тыя** і **гэтыя** забівалі хрысціянства, якое вучыла і такой мудрасці: «Не рабі сабе куміра...»

«Куміры мы!» — так прымушалі думаць пра сябе правадыры **тых** і **гэтых**...

---

[1] У апошніх радках айцец А. Станкевіч адзначыў, што дакумент складзены ў Вільні «…у дзень Апосталаў Славян святых братоў Кірылы і Мяфодзія».

Трэ было хавацца, бо шмат ведаў пра каменнае дзікунства абсалютных бязверцаў, чый жалезны прынцып: «Знішчай усіх — чужых і сваіх!» — наводзіў на зямлю жах; адчуваў: насоўваецца тая цемра, пры якой небяспечна нават думаць, а не тое што гаварыць пра нейкія там свае правы.

Восенню 1939-га сутыкнуўся з «таварышамі» ў Слоніме, але тады абышлося, а з ліпеня 1940-га і па чэрвень 1941-га, жывучы ў савецкай Літве, пралетарскую ўладу ў асобе Мікулаенкава спазнаў зблізку.

Няўжо не дыхнула смяротным холадам?!

Урэшце, чытаў жа ў Ф. Аляхновіча пра страшнага грузіна, і сам Аляхновічаў лёс, апалены салавецкім пеклам, вельмі акрэслена гаварыў, ад каго трэба ратавацца!

Але, мусіць жа, князь каталіцкай царквы, ці, больш дакладна, князь веры, не можа пакінуць алтар свой...

9 сакавіка 2018 года паэт Сяргей Панізнік[1] змясціў у фэйсбуку фота Ф. Аляхновіча з Уладзіславам Галубком[2] і даў такое паясненне:

«Здымак 1918 г., знойдзены ў львоўскіх архівах у 1966 г., я перадаў у рукі вучонага сакратара Літаратурнага музея Янкі Купалы. Алесь Есакоў[3] адразу ж папярэдзіў, каб копію я нікому больш не паказваў, бо могуць быць непрыемнасці. Пасля службы ў дзеючай арміі А. Есакоў трапіў у партызанскі атрад, байцы якога выконвалі спецзаданні; у Вільні, напрыклад, шукаючы кампрамат на Ф. Аляхновіча, нічога асаблівага не здабылі, але ў расстрэльных спісах ён значыўся, і прыйшлося выконваць загад на парозе яго дома...»

Цікава, і навошта было шукаць нейкі там кампрамат, калі драматургу ўжо быў вынесены самы страшны прысуд?!

---

[1] Сяргей Панізнік (н. 1942 г.) — беларускі паэт, публіцыст; аўтар дакументальнай аповесці «Браніслава» (1985).

[2] Уладзіслаў Галубок (1882–1937) — беларускі драматург, адзін з заснавальнікаў нашага тэатра, першы народны артыст БССР, аўтар шматлікіх твораў, у ліку якіх і камедыя ў трох актах «Пісаравы імяніны» (1917). У. Галубок забіты сталіністамі.

[3] Алесь Есакоў (1911–1985) — беларускі крытык, вучоны сакратар Літаратурнага музея Янкі Купалы; аўтар кнігі «Зерне да зерня: Абразкі з жыцця Янкі Купалы» (1977).

Дарэчы, Томас Венцлава[1] ў сваёй кнізе «Віленскія імёны»[2] назваў забойцу Ф. Аляхновіча — гэта савецкі тэрарыст Ёзас Сіманавічус, які нарадзіўся ў 1905-м, а памёр у 1984 годзе.

А яшчэ ў кніжцы Т. Венцлавы можна прачытаць, што Ф. Аляхновіч баяўся прыходу саветаў і моцна піў і што для маладой Беларусі ягоная творчасць дапамагала выхоўваць нацыянальныя пачуцці...

Вось пішу і не магу не думаць: Сіманавічус і Есакоў, магчыма, служылі разам і ў Вільні, на Полацкай ці на якой іншай вуліцы, маглі бачыць Адама Станкевіча, які не схацеў пакінуць сваіх парафіян і тым самым не падбаў пра ўласную бяспеку.

Застаўшыся дома, дачакаўся моманту, калі чырвоная лапа, моцна сціснуўшы, тузанула на сябе жалезны прэнт ручнога званка...

Так, трэ было рушыць у эміграцыю, трэба, — аднак жа лёгка сказаць, ды цяжка зрабіць.

---

[1] Т. Венцлава (н. 1937 г.) — літоўскі паэт, праваабаронца.
[2] T. Venclova. Vilniaus Vardai. R. Paknioleidykla. 2006 m.; p. 219.

# 14. ПЕРШЫ АРЫШТ. УДАКЛАДНЕННЕ ДАТЫ

13 ліпеня 1944 года ў Вільню ўвайшла Чырвоная армія, а праз два тыдні (памятаем!), 27 ліпеня, Адама Станкевіча наведаў Максім Танк...

Мінула лета, мінала восень...

У тыя дні, поўныя неспакойных думак, ксёндз Адам служыў у касцёле Святога Міхала...

Час непазбыўнай трывогі, час няпэўнага настрою — і вось вынік: «...7 снежня 1944 года... органы савецкага НКУС арыштавалі А. Станкевіча...»[1]

Аднак ці ў гэты дзень быў зняволены?

Варта ўдакладніць.

2 снежня 1944 года ваенны пракурор даў дазвол на пазбаўленне святара волі[2], а праз два дні, 4-га чысла, выпісалі ордар на арышт за нумарам 410[3].

Заместа народнага камісара дзяржбяспекі Гузявічуса ордар падпісаў (амаль па-сталінску чырвоным алоўкам!) яго намеснік палкоўнік Рудакоў; ніжэй бачны подпіс блакітным атрамантам афіцэра Шуцьева[4].

Кідаецца таксама ў вочы і двухмоўная — па-літоўску і па-руску — сіняга колеру круглая пячатка з гербам савецкай Літвы ўсярэдзіне; лацінскія літары пячаткі большыя за кірылічныя.

---

[1] А. Станкевіч. Выбранае. 2008 г.; с. 19.

[2] Паводле LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, s.b. (196), l. 23, арышт санкцыяніраваў памочнік ваеннага пракурора Дубровін.

[3] LYA, K. F - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 147.

[4] Капітан дзяржбяспекі, начальнік 3-га аддзялення 2-га аддзела НКДБ Літоўскай ССР.

З такім пісьмовым указаннем і заявіўся на Полацкую лейтэнант Пяткявічус[1], не адзін — з ім былі памочнікі з дзяржбяспекі Заварын і Васільева.

Ордар прад'явілі Марыі Шутовіч — на адваротным баку дакумента захаваўся даволі выразны алоўкавы надпіс лацінкай: Order čytała. M. Šutowič. 7.XII.1944»[2].

Але чаму гэту страшную паперку (запрашэнне ў пекла!) не паказалі самому Адаму Станкевічу?

Ды таму, што ён ужо быў арыштаваны і знаходзіўся ва ўнутранай турме НКДБ Літвы.

Мяркуючы па ўсім, яго забралі дзесяць дзён таму назад, — захаваўся рукапісны пратакол допыту ад 27 лістапада 1944 года[3]; допыт правёў старшы лейтэнант дзяржбяспекі Яратаў[4].

Склалася не зусім зразумелая карціна — чалавека забралі без ніякіх прадпісанняў!

Зноў паклікалі на «сяброўскую» гутарку?!

Магчыма.

Але гэтым разам не выпусцілі і толькі недзе праз тыдзень «спахапіліся», што «парушылі» працэдуру (напэўна ж, так яно й было?!), і запусцілі сваю канцылярыю, але не сталі, калі так можна сказаць, лістапад цягнуць у снежань — у выніку дата ўручэння ордара (7 снежня 1944 года) і зрабілася «рэальнай» датай арышту, на якую і спасылаюцца даследчыкі.

Цікавая, здаецца, і такая акалічнасць: чэкісты — «...людзі поўныя крыві, сытасці і сілы...»[5] — прыбылі на Полацкую не сярод ночы, як зазвычай рабілі, а сярод белага дня.

Але ў гэтым не аператыўным (арышт), а «канцылярскім» (уручэнне ордара) выпадку можна было заявіцца і ўдзень!

---

[1] Намеснік начальніка 4-га аддзялення 2-га аддзела НКДБ Літоўскай ССР.

[2] LYA, K. F - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 147 ap.

[3] Тамсама, l. 162. 27 лістапада 1944 г., як дзень свайго першага арышту, А. Станкевіч пазначыў і ў «Каляндарных нататках»: З Богам да Беларусі. 2008 г.; с. 849.

[4] Старшы оперупаўнаважаны 2-га аддзела НКДБ ЛССР.

[5] Так трапна пра сталінскую брацію напісаў Вінцук Адважны (ксёндз Язэп Германовіч) у кнізе «Кітай, Сібір, Масква».

Вядома, ордар маглі прад'явіць і самому арыштаванаму, скажам, у камеры ці ў кабінеце следчага, але чамусьці гэтак не зрабілі...

Тады ж, 7 снежня, Пяткявічус, Заварын і Васільева правялі вобыск, на якім прысутнічала прадстаўніца домакіраўніцтва — нейкая Валадзько Ніна Мацвееўна; яна распісалася ў пратаколе, вывеўшы сваё прозвішча таксама лацінскімі літарамі[1].

Ператрус доўжыўся тры гадзіны — з 13-й па 16-ю, забралі асабістую перапіску гаспадара кватэры, кнігі і ягоны савецкі пашпарт[2].

Дарэчы кажучы, гэты пашпарт не вярнулі, і ў сакавіку 1945 года Адам Станкевіч атрымаў новы дакумент[3], канфіскаваны падчас другога арышту ў красавіку 1949 года.

---

[1] LYA, K. F - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 151 ap.

[2] Тамсама, l. 151: пашпарт серыі 1-ТЭ, № 604171, выдадзены 22 траўня 1941 г. 5-м Віленскім аддзяленнем міліцыі.

[3] Тамсама, l. 17: пашпарт серыі ТЭ, № 670899, выдадзены 13 сакавіка 1945 г. 5-м Віленскім аддзяленнем міліцыі.

# 15. ДВАЦЦАЦЬ СТАРОНАК ЖЫЦЦЯПІСУ

На арыштаванага святара завялі следчую справу № 2661, залічылі яго за 2-м аддзелам НКДБ Літвы, 27 лістапада першы раз дапыталі і загадалі напісаць свой жыццяпіс.

Звыклая практыка.

Хай няшчасны сам пра сябе (ці, праўдзівей, сам на сябе!) напіша, а тады ўжо з такога літаратурнага практыкавання лягчэй выцягваць па абзацу, сказу, радку, а то й па слову патрэбную крамолу.

І 28 лістапада 1944 года святар склаў сціслы нарыс пад загалоўкам «Моя политическая и общественная автобиография»[1].

Спачатку шэсць старонак, — так сказаць, абеглы погляд на ўласнае жыццё...

Але, мяркую, следству мала было толькі біяграфічных звестак і звестак пра выданне кніг, як і той інфармацыі, што ў польскім парламенце пасол Адам Станкевіч працаваў на карысць беларускай школы, што ў 1938 годзе яго выслалі з Вільні і што ў кастрычніку 1941-га ён выратаваў у Ашмянах трох камсамольцаў, і наогул пры немцах у Беларускім камітэце ён знаходзіўся не ўсе тры гады акупацыі, а ўсяго толькі тры месяцы; дапускаю, што следству цікава было чытаць пра БХД, якое адстойвала незалежнасць Беларусі, але ў федэрацыі з суседзямі, а таксама ж следства магло ўзяць на заметку і тое, што ён, арыштаваны, іменаваў сябе перакананым федэралістам[2].

А наогул жа патрэбна было прызнанне ў акрэсленай антысавецкай дзейнасці!

---

[1] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 152.
[2] Тамсама, l. 153.

Нявыкрутка поўная, або, як сказаў бы М. Забэйда-Суміцкі: «...ані мне пяяць, ані яму слухаць...»

А раз так, то зняволены мусіў быў дадаць да гатовых шасці старонак яшчэ чатырнаццаць — і дадаў іх пад назваю «Вторичное изложение моей политической и общественной деятельности и выводы из этого»[1].

Земля дыхала пад нагамі, адчуваў сябе адгароджаным ад усяго свету, пакінутым на згубу, таму на турэмную паперу кідаў словы: о так, я развенчваў ідэю незалежнасці Беларусі на бальшавіцкі лад, крытыкаваў Савецкую ўладу за рэлігійную палітыку (а гэта і закрыццё храмаў, і знішчэнне духавенства, і арганізацыя антырэлігійных дэманстрацый); прызнаўся і ў тым, што не прыняў калектывізацыю і паставіў пад сумненне культурна-нацыянальную палітыку, якая зазвычай не абыходзілася без карных мер, накіраваных супраць інтэлігенцыі.

Нават акрэсліў і такую сваю «віну»: ягоная мадэль незалежнай Беларусі адпавядала мадэлі заходнееўрапейскай дэмакратыі, што з'яўлялася вынікам (мусіў гэтак тлумачыць!) моднага эгаістычнага нацыяналізму.

Абараняўся, нібыта засланяў рукою вочы ад зыркага святла, — маўляў, часам я знарок дапускаў антысавеччыну, каб мае творы лягчэй праходзілі цэнзуру, бо Варшава лічыла мяне блізкім да камуністаў.

Ці не спадзяваўся: а раптам ненасытныя істоты задаволяцца такімі самазабойчымі прызнаннямі, ягоная адкрытасць залагодзіць іх і пагібель адсунецца?!

А яшчэ (таксама ж ці не прастадушна!) прыкрываўся й такім шчытом: БССР мае дзяржаўны арганізм; БХД не ставілася варожа да савецкага ладу; ворагі СССР ніколі не былі ягонымі сябрамі.

Наогул жа (пераконваў следства) ягонае неразуменне савецкай улады доўжылася з сярэдзіны 1920-х па 1938 год, а ў час вайны з Гітлерам «...на темы политические, а тем более враждебные Советскому Союзу, я писать себе уже не разре-

[1] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 155.

шал... Во все время немецкой оккупации... имел контакты с партизанами...»[1]

Пры гэтым назваў паэта Валянціна Таўлая і віленскую камуністку А. Брант, чые рэчы захоўваў на сваёй кватэры, а таксама сказаў і аб тым, што ратаваў ад нацыстаў моладзь, а ў сябе дома даваў ратунак сялянам, якіх немцы западозрылі ў прыхільнасці да камунізму.

Словам, раскідаў жменямі яшчэ цёплы попел на коўзкі лёд...

Быў чалавекам, прагнуў жыць, хацеў, каб слабое здароўе яму яшчэ паслужыла, шукаў спосаб захаваць жыццё, таму і параўнаў сябе з блудным сынам, праўда, удакладніў у дужках, што блудны ён «...в некоторой степени...»[2], а маскоўскую ўладу параўнаў з велікадушным бацькам — словам, спадзяваўся на дараванне жыцця і свабоды.

Так і пісаў, што калі ў яго з'явіцца магчымасць захаваць унутраную свабоду, гонар беларуса (!) і святара, тады застанецца адданым роднай Беларусі і будзе лаяльным Савецкаму Саюзу.

І ў пякельных умовах на першае месца ставіў Беларусь!

Усё гэта крэсліў няроўным, дрыготкім, трывожным почыркам — пісьмом чалавека, які, вядома ж, і далей хацеў бачыць сонца.

Пісаў, адчуваецца, хутка, неахайна (як тут чалавеку дбаць пра акуратнасць у графіцы?!), скарачаў, нібыта ламаў, словы, драпаў пяром паперу, садзіў чарнільныя плямы — почырк адлюстроўваў страх перад небяспекай.

Не ведаю, можа, нейкае значэнне мае і такі факт: рукапіс пачаты выцвіла-блакітным, працягнуты чырвоным, а завершаны капусна-зялёным атрамантам...

«...Более двух миллионов белорусов-католиков заслуживают разрешения католического вопроса в этой исторической перспективе: Костел в Белоруссии — это родной и верный друг народа. Да поймет все это Великий Сталин!..»[3]

---

[1] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 160 ap.

[2] Тамсама, l. 161.

[3] Тамсама, l. 161 ap.

Такія яны, заключныя радкі «Вторичного изложения...», пад якімі дата — 6 снежня 1944 года.

Радкі грамадзяніна і дыпламата...

Цікава, ці ведаў, што назаўтра, 7 чысла, ён будзе «афіцыйна арыштаваны» і што дзеля гэтага да яго на кватэру накіруецца халерная хеўра — Пяткявічус з памагатымі?!

Напэўна ж, не, не ведаў...

# 16. ТРЫ ПРАТАКОЛЫ

За лістапад–снежань 1944 года захаваліся тры пратаколы допытаў (усе рукапісныя); першы (згадка аб ім ужо была) — ад 27 лістапада...

Адносна складання такіх, з дазволу сказаць, дакументаў трэба мець на ўвазе наступнае: іншы раз на допыце следчы рабіў толькі накід, прыблізны план пратакола; канчатковы змест (само па сабе, вельмі невыгодны для арыштаванага) папера набывала ў вышэйшым кабінеце; кіраўнік, якому падначальваўся следчы, мог упісаць у пратакол усё, што заўгодна, любую патрэбную яму, кіраўніку, і ягонаму начальству хлусню, і гэту хлусню няшчасным арыштаваным даводзілася — старонку за старонкай — падпісваць.

Вядома, праз такую працэдуру прайшоў і Адам Станкевіч.

Узяць хоць бы пратакол допыту (тут забягу наперад) ад 5 ліпеня 1949 года, у якім сярод іншага замацавана і тое, што ён, абвінавачаны А. Станкевіч, сказаў следчаму Пырыкаву:

«...В перечисленных книгах, которые были изъяты у меня на квартире и хранились в книжных шкафах, написанные лично мною, красной нитью проходило (!): отторжение Белорусской ССР от Советского Союза...»[1]

Ну не магло з вуснаў беларуса, ды яшчэ ў стрэсавым стане, на допыце, калі ён вымушаны гаварыць па-расійску, зляцець гэтае, не ўласцівае нашаму маўленню: «...красной нитью проходило...»

Я наўмысна звярнуў увагу на такую сінтаксічную драбязу — прыклад хоць і дробны, аднак жа красамоўны, з малой хлусні пачынаецца вялікая.

---

[1] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l.l. 118, 119.

Словам, не ўсяму напісанаму трэба верыць, у чэкісцкіх летапісах шмат страшных прыдумак...

А 27 лістапада 1944 года следчы Яратаў распытваў пра «Беларускі цэнтр у Літве» (БЦЛ) і даведаўся аб тым, аб чым, пэўна ж, ужо ведаў: летам 1940 года А. Станкевіч перадаў кіраванне БЦЛ інжынеру А. Клімовічу, які ў той час рэдагаваў яшчэ і газету «Крыніца».

А далей Яратаў распытваў пра Беларускі камітэт: якую антысавецкую дзейнасць у час нямецкай акупацыі праводзіла гэта арганізацыя...

Чалавек у небяспецы маўчыць, але часцей — бо выбару няма — гаворыць, і калі пачынае гаварыць, то гэта значыць: амаль заўсёды пачынае хлусіць.

Добра, калі хлусня дапамагае вылезці з бяды, і тое добра, што і ў небяспецы не знікае разуменне: не трэба, калі магчыма, братацца са злом, аднак жа калі засцігла бяда, то і злу паклонішся.

А раз так, то кланяйся.

Абмінаючы жывых, думай — апавядай д'яблу пра мёртвых і пра тых, якія далёка, да якіх не дацягнуцца; апавядай, каб здавалася праўдай (усё-ткі называеш некага!); толькі ўпэўнена апавядай, бо ў гэтым няхай малы, але ёсць ратунак.

Таму і прагучала імя Ф. Аляхновіча (ён загінуў восем месяцаў назад), а ў пратаколе з'явілася атэстацыя Яратава, ці ягонага начальніка, што Ф. Аляхновіч: «...ярый фашист...»[1]

Для мяне відавочна: паклёп на выдатнага драматурга гвалтоўна ўкладзены ў вусны зняволенаму!

Аднак жа трэба далей басанож ісці па тоўчаным шкле, і ў выніку натуецца: маўляў, у газеце «Беларускі голас», якую, як вядома, рэдагаваў той жа Ф. Аляхновіч, Беларускі камітэт друкаваў допісы, накіраваныя проці сталінскай палітыкі[2], а яшчэ камітэт выпускаў улёткі, у якіх заклікаў змагацца супраць Чырвонай арміі[3].

---

[1] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 164 ap.

[2] Тамсама, l. 165.

[3] Тамсама, l. 165 ap.

Пра гэта можна гаварыць, таму што пра гэта следства і само ведала: што-што, а кожнае выданне, якое выходзіла ў гады акупацыі, уважліва прачытвалася і вывучалася ад першай літары да апошняй кропкі.

Можна таксама назваць кіраўнікоў камітэта, бо доктар Грабінскі, дзякаваць Богу, на чужыне, а прафесар Іваноўскі год таму спачыў[1].

Названы, як адзін з кіраўнікоў, і Станіслаў Грынкевіч, — на той час ён ужо быў арыштаваны, і тайная служба і без таго знала, чым ён займаўся ў камітэце.

Аднак зноў жа не вельмі зразумела — ці імя С. Грынкевіча згадаў змардаваны вязень, ці яго ўпісаў у дакумент[2] сам Яратаў...

Другі пратакол, ад 9 снежня 1944 года[3], выразным почыркам накрэслены на літоўска-рускім бланку — гэта вялікага памеру канцылярскі твор, у якім 22 старонкі і які сведчыць, што допыт вялі некалькі следчых, але прозвішча расчытваецца толькі адно — Голасаў[4].

З канцылярскага твора можна даведацца, — абвінавачаны між іншага прызнаўся (ці прымусілі прызнацца!):

«...В своих сочинениях я... заявлял, что Советская власть мало уделяет внимания белорусскому народу и белорусской национальной культуре, что колхозы в Советском Союзе создаются насильственным путем...»[5]

Шмат пыталіся пра партыю БХД, і высветлілі: мэта БХД — незалежная беларуская дзяржава і наогул аб'яднанне Беларусі, і партыя імкнулася ажыццявіць свой ідэал паступова[6].

Чалавек быў як у агні, аднак жа — светлая галава! — з апошніх сіл пільнаваўся, адкрываў толькі тыя таямніцы, якія можна было адкрыць.

---

[1] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 164.

[2] Тамсама, l. 166.

[3] Тамсама, l. 169.

[4] Капітан дзяржбяспекі, начальнік 4-га аддзялення 2-га аддзела НКДБ ЛССР.

[5] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 170 ap.

[6] Тамсама, l. 172 ap., 173.

Зноў жа патрабавалі імёнаў[1], і зноў згадваў, каго можна было згадаць (Люцыян Хвецька[2], Вінцэнт Гадлеўскі, Ян Пазняк[3], Баляслаў Бабарыка[4], Альбін Сянкевіч[5], Язэп Малецкі[6]); упамянуў і Мікалая Дварэцкага[7] — мусіць жа, ведаў, што ў той час, у снежні 1944-га, М. Дварэцкі знаходзіўся ў Нямеччыне — то-бок далёка ад савецкай небяспекі...

На пытанне, ці ён, Адам Станкевіч, заснаваў БХД, адказаў — БХД не ствараў, але распрацаваў ідэалогію, праграму і статут партыі[8], а таксама ж арганізоўваў партыйныя гурткі[9]; палічыў мэтазгодным успомніць кіраўнікоў двух такіх гурткоў, якія дзейнічалі ў мястэчку Жодзішкі і ў вёсцы Шальціны[10].

Зрабіў так — значыць, быў упэўнены: і з гэтымі людзьмі бяда не здарыцца, бо яны ў бяспецы, ім нішто не пагражае; астатніх жа кіраўнікоў не назваў.

Часам спасылаючыся на ягоную «аўтабіяграфію» ад 28 лістапада 1944 года, следчыя ўдакладнялі ранейшыя паказанні,

---

[1] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. 12505, b.b., l. 171.

[2] Люцыян Хвецька (1889–1944) — каталіцкі святар, магістр тэалогіі, адзін з актыўных заснавальнікаў «Хрысціянскай дэмакратычнай злучнасці». Рэктар Місіянерскага інстытута ў Любліне.

[3] Ян Пазняк (1887–1939) — беларускі палітык, публіцыст, удзельнік хрысціянска-дэмакратычнага руху; рэдагаваў газету «Беларуская крыніца» і часопіс «Хрысціянская думка». Забіты сталіністамі.

[4] Баляслаў Бабарыка — узначальваў беларускі рух у Будславе; у 1939 г. арыштаваны НКУС, але ў 1942 г. шчасліва трапіў у польскае войска.

[5] Альбін Сянкевіч — дзеяч ЦК БХД. Забіты немцамі ў 1942 г. у Докшыцах.

[6] Язэп Малецкі (1906–1982) — беларускі грамадскі дзеяч, лекар, скончыў медычны факультэт Віленскага ўніверсітэта, адзін з кіраўнікоў БНК; з 1935 г. працаваў у Варшаве, з 1944 г. у эміграцыі. Памёр у Аўстраліі.

[7] Мікалай Дварэцкі (1903–1988) — узначальваў беларускі рух на Браслаўшчыне, віцэ-старшыня БХД, у Іказні кіраваў гуртком БІГК, у 1944 г. эміграваў; у друку выступаў як Мікола Базылюк. У жніўні 1939 г. прывітаў А. Станкевіча вершам, прысвечаным 25-м угодкам свяшчэнства і беларускай працы святара.

[8] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 171 ap.

[9] Тамсама, l. 172.

[10] Тамсама, l. 172 ap.

спрабавалі выцягнуць новыя звесткі і ў выніку чулі — напрыклад, у 1919 годзе БНК абараняў перад палякамі палітычныя правы беларусаў, а ў 1941-м адноўлены пры немцах камітэт у асноўным займаўся вырашэннем бытавых патрэб насельніцтва[1].

А што, не было пранямецкіх акцый?

Былі.

Камітэт агітаваў юнакоў запісвацца ў берлінскую школу шафёраў[2].

А трэці пратакол, дата якога – 20 снежня 1944 года[3], на першай старонцы засведчыў: айца А. Станкевіча дапытваў ужо новы следчы — нейкі Капкоў (ці Хапкоў?)[4].

Ён таксама браў на бога, яму аж пякло даведацца, калі (з якога года!) зняволены стаў антысаветчыкам.

І Адам Станкевіч з прыхаваным здзекам акрэсліў: з 1926-га — маўляў, менавіта ў гэтым годзе найбольш узмацнілася змаганне за адарванне Беларусі ад Масквы, але праз два гады ён адышоў ад палітычнай дзейнасці і заняўся пытаннямі гісторыі, навукі і культуры.

Уцяміў Капкоў-Хапкоў ці не, што ў 1926 годзе Адам Станкевіч і ягоныя аднапартыйцы жылі ў Польшчы і з'яўляліся грамадзянамі Польскай рэспублікі і адарваць Беларусь маглі (ну, хоць бы ў марах!) толькі ад Польшчы, а не ад Савецкага Саюза?!

Аднак малодшы лейтэнант задаволіўся адказам і, здаецца, не звярнуў увагу на тое, што БХД выхоўвала народ у нацыяналістычным духу.

А навошта звяртаць увагу, калі гэта фармулёўка ці не яго ўласнага гатавання!

А вось тым, што БХД выступала супраць польскіх шавіністаў, варта зацікавіцца, бо шавіністы гэтыя нікуды ж не дзелі-

---

[1] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 173 ap.

[2] Тамсама, l. 174.

[3] Тамсама, l. 167.

[4] Малодшы лейтэнант дзяржбяспекі, старшы оперупаўнаважаны НКДБ ЛССР.

ся, яны ёсць, яны схаваліся, яны ў падполлі, і следчы пачаў выпытваць пра польскае падполле.

Адам Станкевіч паведаміў, што сувязі з гэтым падполлем не меў (як, дарэчы, і з Арміяй Краёвай!), але, па чутках, падполле, вядома ж, існуе і выконвае дырэктывы свайго эміграцыйнага ўрада, і тутэйшыя палякі падтрыліваюць яго.

Вопытны палітык гаварыў аб тым, аб чым НКДБ і без яго добра ведаў!

Аднак жа ізноў паўстала ліпучае пытанне пра імёны, і святар сцвердзіў: імёнаў назваць не можа, але тут, у турме, чуў ад вязня К., што кіраўнікі падполля арыштаваны.

Заўважу: падазрона дасведчаны быў гэты гаваркі таварыш К.!

Так проста, можна сказаць, амаль па-сяброўску, узяў і назваў у камеры тых польскіх дзеячаў, якіх перад гэтым у Вільні (і, магчыма, не толькі ў Вільні) накрыла НКДБ!

Словам, Адам Станкевіч не мог не вярнуць квазіследству падкінутую яму праз таварыша К. «інфармацыю»...

Пасля чаго — а, няхай хоць увесь вялікі свет абсмяе цябе, а ты рабі сваё — дазволіў сабе, бо меў дальнабачны план, такі дадатак:

«...моя а/с[1] деятельность вызвана была моей служебной деятельностью, как служителя культа, злобы к Сов. власти я не имею и, как белорусский патриот, я бы мог еще поработать на пользу Сов. власти. <...> Врагов Сов. Союза я не считаю своими союзниками...»[2]

Меў савецкі пашпарт, а называў сябе беларускім патрыётам!

---

[1] А/с — антисоветская.

[2] LYA, F. K - 1, ap. 58, b. P - 12505, b.b., l. 168 ap.

## 17. ДОХ

Гэты раздзел аповесці — апавяданне «Пашпарт серыі 1-ТЭ, № 604171...»

Чаму раптам апавяданне (мастацкі твор!), а не далейшая дакументальная плынь?

А каб крыху парушыць паслядоўны паказ падзей; каб тое, што адбывалася на працягу месяцаў і гадоў у розных кабінетах, сціснуць-змясціць у дзве-тры гадзіны і ўвесці ў адзін пакой, каб пазнейшае зрабіць ранейшым, таму выбачай, храналогія; выбачай, дакладнасць з адпаведнасцю таму ці іншаму віленскаму месцу!

У лістападзе–снежні 1944 года Адама Станкевіча дапытвалі не толькі афіцэры Яратаў, Голасаў, Капкоў (ці Хапкоў?), а яшчэ і нейкі генерал; праўдзівей — не дапытваў, а кантраляваў работу гэтых следчых.

З айцом Адамам генерал сустракаўся і ў студзені 1945-га; выклікаў на гутаркі і ў наступныя гады.

Уважліва чытаючы пратаколы, дваццаць старонак жыццяпісу і стэнаграмы за студзень 1945-га, хітры дападкі генерал прапускаў міма вачэй высновы сваіх падначаленых накшталт — хоць ад палітыкі абвінавачаны А. Станкевіч і адышоў, аднак жа антысавецкую дзейнасць праводзіў у сваіх артыкулах.

Маючы пэўны план дзеяння (заснаванне ў БССР псеўдакаталіцкай дыяцэзіі, пры дапамозе якой льга было б лацвей сачыць за вернікамі!), генерал, мяркую, ухапіўся за наступныя святаровы словы:

«...Более двух миллионов белорусов-католиков заслуживают разрешения католического вопроса в этой исторической перспективе: Костел в Белоруссии — это родной и верный друг народа. Да поймет все это Великий Сталин!..»

Так, духоўны клопат айца Адама (вывад касцёла з-пад польскай апекі) і хцівы генералаў план, здаецца, на нейкі гістарычны момант супалі.

Варта згадаць тут і ксяндзову занатоўку ад 4 красавіка 1945 года:

«...З успамінаў з турмы: справа беларускага біскупства ў БССР: гутаркі з генэралам у сьнежні месяцы 1944 і ў студзені 1945. Мой праект і ініцыятыва аб гэтым. Адносіны іх да гэтага. Аб гэтым я там напісаў...»[1]

Адам Станкевіч разумеў: **ім** верыць нельга, таму свайго настырнага візаві іменаваў «Меф-іст», «меф», «м-сто» — гэта значыць, Мефістофель, чорт — словам, той злы дух, ад якога ніколі дабра не чакай, але (бо абставіны прымушаюць!) гешэфтаваць трэба.

Дарэчы, у маім Давыд-Гарадку на чорта кажуць дох, таму ў гэтым апавяданні я так і назваў генерала...

Ён чорт і, пэўна, смерць сама!
І землякі як здорава:
«Ах, Доха на цабэ німа!» —
Гавораць так пра ворага...[2]

## «ПАШПАРТ СЕРЫІ 1-ТЭ, № 604171...»

Дох сядзеў за круглым сталом, які быў засланы белым абрусам і на якім ляжала чырвоная папка і стаяла вялікая крыштальная ваза, поўная аранжавых апельсінаў, і сядзеў ён не пад звыклым партрэтам Сталіна, а пад карцінаю «Гракі прыляцелі».

Робячы ўсё з намерам, Дох загадаў прывесці падследнага не ў кабінет, а ў пакой адпачынку.

«Ён што, яшчэ і аматар жывапісу?!» — атрымаўшы дазвол сесці і пакрысе авалодваючы сабою, падследны з трывожным здзіўленнем апусціўся ў мяккае крэсла.

---

[1] Каляндарныя нататкі: А. Станкевіч. З Богам да Беларусі. 2008 г.; с. 850.

[2] Страфа з майго верша «Дох» (2006).

Зрэшты, ці не ўсё адно (аматар жывапісу ці не аматар!), галоўнае, што пачатковай мэты ён, падследны, здаецца, дасягнуў, таму сёння (на Новы год!), мяркуючы па ўсім, будзе не допыт, а нешта блізкае да гаворкі, магчыма нават з дамешкам дыпламатыі з абодвух бакоў.

Трэба думаць, Дох уважліва прачытаў ягоны праект беларускага каталіцкага біскупства, далажыў па камандзе, і там зрабілі памысныя высновы — словам, у апошні дзень 1944 года гутарка стане падобнай на абмеркаванне.

І гэта вельмі добра, што прачытаў менавіта ён, — з усіх іх найбольш адукаваны і з выгляду нешта чалавечае мае, хаця ў маладосці, пэўна, быў такім жа, як і ўсе яны...

Ці не пачынаў з таго, што каля цаглянага муру, перад тым як ціснуць на курок, завязваў рот асуджаным на расстрэл, каб яны перад смерцю не крычалі, а калі пайшоў канвеер, то паблізу расстрэльнага муру, заглушаючы галасы няшчасных, запускаў рухавік: бясконцым ахвярам завязваць раты — рукі адваляцца!

Здатнасць да катаўскай работы зазвычай і выводзіць у вялікія начальнікі, — ці не праўда?!

І здатнасць да правакацый — вялікіх і малых!

— Вашу дзейнасць фінансаваў і штаб Дзянікіна[1]? — аднойчы, нібыта мімаходзь, Дох укалоў бязглуздым пытаннем.

— Ніякіх кантактаў са штабам Дзянікіна я ніколі не меў!

— А ў пратаколах Беларускага навуковага таварыства адзначана, што ў 1922 годзе ў вас і ў Браніслава Тарашкевіча было на руках 10 000 рублёў дзянікінскіх папяровых грошай!

— Божа мой, якія гэта грошы?! Музейныя экспанаты! І тады, у 1922 годзе, мы з Тарашкевічам і перадалі іх у Беларускі музей, што і засведчана было ў адным з пратаколаў нашага навуковага таварыства!

— Аднак жа гэтыя экспанаты, — з яхіднасцю ўдакладняў Дох, — трапілі да вас у той час, калі Дзянікін наступаў на Маскву?! Дык як яны аказаліся ў вас?

---

[1] Антон Дзянікін (1872–1947) — расійскі генерал-лейтэнант, адзін з кіраўнікоў Белага руху, кіраваў Поўднем Расіі ў 1918–1920 гг.

— Я не магу прызнаць, што яны трапілі менавіта ў той час, бо не памятаю ўжо, калі дакладна трапілі, але сітуацыя даволі простая... Каталіцкія сем'і вярталіся з поўдня Расіі ў Вільню і ахвяравалі на касцёл дзянікінскія грошы, бо іншых не мелі...

Так ён, арыштаваны ксёндз, адказаў тады правакатару, які меў вялікія пагоны, аднак жа досыць...

Трэба сабрацца і з думкамі, і са словамі, а галоўнае — з духам, бо і гэты пакой, дзе на сцяне заместа выявы правадыра мастацкі твор, а на стале заместа пратакола чырвоная папка і спакуслівa залацеюць апельсіны, таксама — пекла.

Але як супакоіцца, калі гняце адсутнасць заўсёды неабходнага спакою?!

Пад балотным позіркам Доха надзея выжыць не павялічвалася — наадварот, мізарнела, страх узмацняўся, і душу апаноўвала расчараванне.

Хрысціянін не павінен расчароўвацца, але з дня арышту, і нават раней, адпала ахвота жыць, бо ў галаве смылела: трапіў у пастку назаўсёды!

Так, зараз пойдуць не проста пытанні, якія ўжо былі (...імя ...калі і дзе нарадзіўся ...дзе жывеш ...хто бацька і маці ...колькі ў іх было зямлі ...дзе вучыўся ...да якой партыі належаў ...у якіх выданнях друкаваў антысавецкія артыкулы...), — зараз пачнецца торг, і, даючы адказы, трэба трапіць у тон.

А сіл амаль нестае, і сатана ж ніколі не спіць, таму, каб не сесці макам, хочаш не хочаш, а неабходна патрапіць пад густ...

Ты і палітык, і царкоўны дзеяч, але найперш ты — летуценнік, нацыянальны фантазёр: у роднай гісторыі па-ранейшаму хочаш бачыць, як павінна быць, а не як было, і нават у сённяшнім сваім горкім існаванні спадзяешся іншы раз на тое, на што нельга спадзявацца.

Дарэчы, доўгія гады меў надзею, што ўсё складзецца, ды не склалася, а калі й склалася, то не зусім так, як хацелася, таму й застаецца пакуль адно, калі трапіў у кіпцюры, — будзь хітрэйшы за саму хітрасць...

Палякі хоць судзілі, гублялі час на выслухоўванне нейкіх там адвакатаў, а гэтыя знішчаюць без ніякага суда; праўда, могуць на апельсіны зазваць і вывесіць гракоў на сцяне...

На сумотным палатне, якое ў гэты момант з'яўлялася праўдзівым увасабленнем ягонага расчаравання, бліжэй былі паказаны непрыгожыя крывыя дрэвы (здаецца, бярозы), з невыразна-чорнымі несамавітымі на выгляд гнёздамі-кубламі і птушкамі (гракамі), якія таксама выглядалі несамавіта.

І тут падследнага ўсё адно як страпянула ўсяго:

«А гэта ж і ёсць яно, сапраўднае жыццё, і яно амаль заўсёды непрывабнае, таму на палатне й паказана бліжэй, наближана да чалавечых вачэй! А што ад вачэй адсунута? Прычым знарок! Адсунута царква...»

Дох тут жа прачытаў зрух яго душы, угадаў ягоныя думкі:

— Вы і раз, і два сумна паглядзелі на рэпрадукцыю з саўрасаўскай карціны...

— Я паглядзеў на царкву, — як зачараваны, падследны ўздыхнуў.

— Вось я і хачу сказаць пра царкву! — падхапіўшы патрэбнае яму слова, Дох пачаў, нібыта лектар. — У царкве ўвесь час гавораць аб тым, чаго ў жыцці няма, і толькі таму, што яго няма, гавораць і гавораць... Просяць: не забі, бо забіваюць штодня і штоночы... Заклікаюць: не крадзь, бо зноў жа крадуць і штодня, і штоночы... Галосяць: не сведчы хлусліва, бо навокал усе набожныя і ненабожныя — манюкі, кожны праведнік і няправеднік — хлус... Царква заўсёды вучыць, як трэба жыць, але вось бачыце...

Паказаў на карціну:

— ...мастак адсунуў царкву, змясціў яе на заднім плане, каб тым самым, напэўна, выдзеліць сваю патаемную думку: царква мае другарадную ролю ў жыцці чалавека, а мо і наогул не патрэбна, бо чалавек не хоча вучыцца і слухацца, а хоча жыць так, як жывецца...

Дох быў задаволены тым, што выклаў, і скончыў сваю імгненную лекцыю, строга трымаючы яе, як жывую істоту, у такой струне:

— А чалавек... А чалавек наогул убогі, як убогія на карціне дрэвы, гнёзды і птушкі... Зрэшты, яны хоць намаляваны, а чалавека на карціне зусім няма, што вельмі сімвалічна... І гэта добра, што яго няма...

